# БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР

Люты 1996 г.

№ 1—2 (14—15)

Кошт - па дамоўленасці


# КАСЬЦЮШКАЎСКІЯ ГРОШЫ

У час паўстання 1794 года рэвалюцыйным уладам прыйшлося займацца мноствам экстраных праблемаў. Сярод іх значнае месца займала фінансавае забесьпячэньне паўстаньня. Не зьяўляецца сакрэтам, што на працягу ўсяго XVII ст. фінансы Рэчы Паспалітай знаходзіліся ў разладжаным стане, трывала адчуваўся недахоп сродкаў на самыя надзённыя справы. Унутранае бязладзьдзе, умяшаньне з боку суседзяў і, у выніку, падзелы краіны яшчэ больш ускладнілі сытуацыю.

Кіраўнікі паўстаньня адразу ж сутыкнуліся зь недахопам наяўных грошай, якіх у дзяржаўнай скарбніцы амаль не было. Нейкай падмогай аказаліся грашовыя сумы, якія былі захопленыя ў якасьці трафеяў у Варшаве й іншых месцах, але іх было надзвычай мала. Значна больш удалося атрымаць у выніку патрыятычных ахвяраваньняў грамадзян, але тут уладам давялося мець справу пераважна не з рэальнымі грашыма, а з каштоўнасьцямі. Значную колькасць каштоўных металаў атрымалі ў выніку рэквізыцыі касьцельных і кляштарных каштоўнасцяў. Адначасова прымаліся экстраныя меры, каб пераадолець уцечку каштоўных металаў (у выглядзе манэты) за межы краіны, пераважна на захад. Тадэвуш Касьцюшка 3 мая 1794 года накіраваў Часовай Нацыянальнай Замяшчальнай Радзе ў Варшаве інструкцыю, дзе запатрабаваў прыняць неабходныя меры, якія б перашкаджалі адліву паўнавартаснай манэты з Рэчы Паспалітай. Сярод іншых мераў прадугледжвалася паніжэньне манэтнай стапы срэбранай манэты да такога ўзроўню, які б рабіў нявыгадным яе вываз. Прадугледжвалася таксама чаканка, пераважна дробных наміналаў, зь нізкапробнага срэбра. Буйныя паўнавартасныя міналы (талеры) было вырашана чаканіць у абмежаваным памеры, у большасьці для рэпрэзэнтатыўных мэтаў. Прапанавалася зьмяніць і вонкавы выгляд манэты — замест звыклага каралеўскага бюста зьмясьціць моўны дэвіз паўстаўшай Рэчы Паспалітай «Вольнасць, Адзінства, Незалежнасць Рэчы Паспалітай 1794», а на працілеглым баку традыцыйны герб дзяржавы й адзнаку намінала.

Найвышэйшая Нацыянальная Рада ў Варшаве 8 чэрвеня выдае маніфест аб грашовай рэформе, гэтаму ж пытаньню была прысьвечаная ардынацыя ад 14 чэрвеня. Проба, лігатурная маса й курс залатога дуката заставаліся ранейшымі, разам з гэтым зьмяншчалася срэбранае ўтрыманьне, лігатурная маса й канцыроўка (з 8 да 6 злотых) срэбранага талера, такім чынам талер па памерах і вазе стаў меншым зьменшылася ў ім і ўтрыманьне срэбра. Перапынялася чаканка медных наміналаў і паўталера. Па нейкіх прычынах былі праігнараваныя патрабаваньні майскай інструкцыі Т. Касьцюшкі аб узнаўленьні эмісіі некаторых білонавых наміналаў і аб зьмяшчэнні на манэтах дэвізу паўстаньня.

Зробленыя захады пэўным чынам садзейнічалі нармалізацыі становішча, але ў нязначных памерах. Вайна кожны дзень патрабавала вялікіх грашовых выдаткаў, а іх трывала не хапала. У такіх умовах канчаткова атрымоўвае перавагу думка знайсьці выйсьце з грашовага крызісу за кошт эмісіі папяровых грошай. У канцы XVIII ст. у шэрагу эўрапейскіх краінаў ужо мелі хаджэньне папяровыя грашовыя знакі (Англія, Аўстрыя, Расея, Францыя, Швецыя). Найбольш актыўна ў гэты час карысталіся папяровай эмісіяй рэвалюцыйныя ўлады Францыі, вопыт якой спрабавала пераняць паўстаўшая Рэч Паспалітая.

8 чэрвеня 1794 года Найвышэйшая Нацыянальная Рада выдае загад аб эмісіі скарбовых білетаў і аб утварэньні сьпецыяльнага воргана — Дырэкцыі скарбовых білетаў, які б непасрэдна займаўся пытаньнямі, зьвязанымі з падрыхтоўкай і арганізацыяй друкаваньня скарбовых білетаў. Была акрэсьлена сума эмісіі — 60 млн. злотых. Папяровым грашам надаваўся прымусовы курс, іх абмен на звонкую манэту не прадугледжваўся. Вынятак іх з абарачэньня планавалася вырашыць шляхам прадажы дзяржаўнай маёмасьці. Скарбовыя білеты павінны былі прымацца ўсімі грамадзянамі пры ўсіх плацяжах. Дзяржаўныя ворганы атрымлівалі правы рабіць усе плацяжы папяровымі грашыма, у той час як прыватныя асобы абавязваліся ўносіць падаткі й іншыя плацяжы ў дзяржаўныя ўстановы ў прапорцыі: 50% звонкай манэтай і 50% скарбовымі білетамі.

Ініцыятары, відаць, добра разумелі, што іхняя навацыя ня выкліча энтузыязму з боку насельніцтва краіны, таму пастановамі прадугледжваліся штрафныя санкцыі ў выпадках адмовы ад прыняцьця скарбовых білетаў. Арганізатары папяровай эмісіі прадбачліва прынялі захады супраць магчымай фальсыфікацыі. Адзін з арганізатараў і актыўных дзеячаў эмісіі папяровых білетаў А. Капостас пазьней сьведчыў: «Мяркую, што з усіх розных асыгнацый, якія існуюць у Эўропе, нашыя польскія, ад пяці злотых да тысячы, складаней за ўсе для падробкі й могуць вытрымаць строгія выпрабаваньні, але пры гэтым нельга будзе дайсьці да такога блізкага падабенства, каб і простае вока, якое хоць некалі пазнаёмілася з сапраўднымі асыгнацыямі, гэтага не заўважыла». Адначасова прадугледжвалася сьмяротная кара тым, хто ўсё ж рызыкаваў пакваніцца на дзяржаўную манаполію, і грашовыя ўзнагароды тым, хто выкрыў фальшываманэтчыка.

Былі вызначаны наміналы купюраў: 5 злотых (фіялетавага колеру), 10 злотых (ліловага, мал. 1), 25 злотых (аранжавага), 50 злотых (карычневага, мал. 2), 100 злотых (ружова-чырвонага), 500 злотых (цаглянага), 1000 злотых (жоўта-лімоннага, мал. 3). Купюры былі аднолькавага памеру й аднабаковымі.







На скарбовых білетах зьмяшчаліся адзнакі наміналу, тэкст, які сьведчыў, на падставе чаго адбываецца эмісія і што атрымаюць уладальнікі асыгнацыяў, меліся адзнакі нумару й сэрыі, подпісы (тры) адказных за выпуск асобаў, назва каштоўнай паперы. Меўся таксама адбітак пячаткі Дырэкцыі скарбовых білетаў, поле якога займае моўны дэвіз паўстаньня «Вольнасць, Адзінства, Незалежнасьць». Дарэчы, усе надпісы зробленыя польскай мовай, у той час як на манэтах традыцыйна выкарыстоўвалася лацінская.

У верхняй частцы купюры, на пачэсным месцы, зьмяшчаліся гярбы Польшчы й Вялікага княства Літоўскага, а непасрэдна пад імі разьмяшчалася давол складаная эмблематычная выява. Яна ўтвараецца са злучаных паміж сабой фрагійскай шапкі, посаха вольнасьці, вянка, трох злучаных паміж сабой замкавых вежаў, перакрыжаваных пукоў кос і дзідаў, зігзагападобных маланак, крылаў і ланцуга. Гэтая алегорыя, бясспрэчна, мае сувязь з эмблематыкай рэвалюцыйнай Францыі.

Скарбовыя білеты зьявіліся ў абарачэньні 16 жніўня й сустрэлі насьцярожаныя адносіны з боку насельніцтва, якое не сьпяшалася іх прымаць. Акрамя зусім зразумелага недаверу да новага віду грошай, вялікі ўплыў на насельніцтва аказвала сытуацыя ў тэатры ваенных падзеяў. Улады вымушаныя былі прымаць захады, накіраваныя на ўздым папулярнасці папяровых грошай. Перавага спачатку аддавалася прапагандысцкім акцыям: тлумачылася неабходнасць увядзеньня папяровых грашовых знакаў, падкрэсьлівалася, што такім чынам улады пазьбеглі рэзкага павелічэньня падаткаў, сьцьвярджалася, што хутка скарбовыя білеты будуць прымацца на таргах па продажы дзяржаўнай маёмасьці, у першую чаргу зямельнай. Было абвешчана, што 1 сьнежня 1794 года ў Варшаве й 1 сакавіка 1795 года ў Вільні адбудуцца першыя таргі. У пэрыядычным друку неаднаразова абвяшчаліся прозьвішчы тых, хто сьвядома набыў значную колькасць папяровых грошай.

Стабілізацыя становішча пад Варшавай, посьпехі рэвалюцыйных войскаў станоўчым чынам адбіліся на цыркуляцыі скарбовых білетаў, але гэты пэрыяд цягнуўся нядоўга й скончыўся пасьля атрыманьня паведамленьняў аб разгроме войскаў на Брэстчыне (канец другой дэкады верасьня).

Негатыўную ролю адыгралі пралікі арганізатараў папяровай эмісіі, бо яны не ўлічылі неабходнасьці выпуску дробных наміналаў, што яшчэ больш ускладніла становішча на рынках. Тадэвуш Касьцюшка, у свой час, раіў Найвышэйшай Нацыянальнай Радзе ўвесьці дробныя папяровыя наміналы, пачынаючы ад трох- ці нават аднаграшовых наміналаў. Рашэньне аб гэтым было прынятае 13 жніўня, вырашана эмітаваць 5- (мал. 3), 10- (мал. 4), 20-грашовыя й адназлотавыя купюры (мал. 5); на пачатку верасьня распачалі друк 2- і 4-злотавых (мал. 6) наміналаў. Скарбовыя білеты 20-грашовыя й 2-злотавага наміналаў невядомыя дасьледчыкам: яны не эмітаваліся ці ня трапілі ў аба-




(Працяг на стар. 2)

# ЧАМУ «БЕЛАРУСКІЯ МАТЫЛЬКІ» НЯ ХОЧУЦЬ ЛЯЦЕЦЬ НА РАДЗІМУ?

Філятэлістычны сьвет яшчэ працягвае абмяркоўваць так званыя камэрцыйныя выпускі беларускіх паштовых марак, прысьвечаных Алімпійскім гульням у Лілехамэры, чэмпіянату сьвету па футболе ў ЗША і Марку Шагалу, а фірма «Сэм Меламед» ужо выкінула на эўрапейскі рынак новую сэрыю паштовых мініяцюр — «Матылькі Беларусі».

Ксэракопіі інфармацыйнага выпуску, што распаўсюджваецца філятэлістычным агенцтвам «Гербер і Брукман» (Нямеччына), дазваляюць сьцьвярджаць, што гэта восем маляўнічых марак наміналам 300 беларускіх рублёў кожная і два блёкі па 1000 рублёў. Сэрыя, а таксама марачны ліст з тых жа паштовых мініяцюр рэклямаваліся ўжо 19 сьнежня 1995 года. Значыць, насуперак законам, прынятых ва ўсім сьвеце, «Матылькі Беларусі» пачалі распаўсюджвацца за мяжой раней, чым у дзяржаве, назва якой стаіць на гэтых марках і блёках.

Мяркуючы па ўсім, «дадому» яны не сьпяшаюцца. Як сцьвярджала па тэлефоне ў размове з адным з аўтараў матэрыялу адказная супрацоўніца Міністэрства сувязі й інфармацыі Рэспублікі Беларусь, іх абяцалі «падвезьці» ў Менск толькі 15 студзеня.

У сувязі з гэтым зноў, як у гісторыі з вышэйпамянёнымі спартыўнымі й шагалаўскімі сэрыямі, у філятэлістаў узнікае шэраг пытаньняў. А менавіта: які наклад «Матылькоў Беларусі», колькі дакладна й якіх марак, блёкаў і лістоў выпушчана? Ці азначае гэта, што беларускім філятэлістам зноў будзе «выдзелена» ўсяго па адной сэрыі на сябра таварыства? Чаму інфармацыю пра выпуск новых беларускіх паштовых мініяцюр яны атрымліваюць не ад Мінсувязі й інфармацыі, а з Заходняй Эўропы? Як магло здарыцца, што перш чым зьявіцца на менскім паштамце й у закенцах адзьдзяленьняў сувязі беларускіх гарадоў, гэтая сэрыя ўжо амаль месяц рэалізуецца за мяжой і, як няцяжка зразумець, не за «зайчыкі» й нават не за «зубры»?

Нарэшце, чым кіравалася міністэрства, заключаючы дадому са скандальна вядомай ва ўсім філятэлістычным сьвеце фірмай «Сэм Меламед», якая прыкрываецца шыльдай «Міжнароднай філятэлістычнай карпарацыі» (Нью-Ёрк), калі Беларусь мае ўласную паліграфічную базу, якая адпавядае ўсім патрабаваньням, або (на горшы выпадак) маркі й блёкі можна замовіць у Маскве? Тым больш што цікавым выглядае пералік (далёка ня поўны) дзяржаваў, зь якімі амэрыканскі бізьнесмэн Сэм Меламед заключаў аналагічныя кабальныя пагадненьні. Гэта Дамініка, Гамбія, Гана, Грэнада, Мальдзівы, Невіс, Танзанія, Тога... Як бачыце, не хапае яшчэ адной «бананавай» рэспублікі — Беларусі.

Па прызнаньні аднаго з дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі мінулага скліканьня, які браў актыўны ўдзел у расьследаваньні гісторыі зьяўленьня першых выпускаў беларускіх «меламедаўскіх» марак, міністрэрства атрымала ад Міжнароднай філятэлістычнай карпарацыі толькі мізэрную частку прыбытку. Хто ж на гэты раз, але ўжо па вартасьці, ацэніць маральны й матэрыяльны ўрон, нанесены нашай краіне? На наш погляд, гэта справа ня толькі Камісіі па адукацыі, культуры й захаваньні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета, а кампэтэнтных ворганаў.

Тады гэтым і іншым падобным зьдзелкам будзе пакладзены канец, а «некампэтэнтнасьць» і памылкі будуць адпаведным чынам ацэнены.

*Аляксандр ЛІЗАРАЎ, сябра прэзыдыума Гомельскага абласнога адзьдзяленьня Саюза філятэлістаў Беларусі.*

*Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ, філятэліст, сябра Беларускага саюза [illegible]*

# ПРЭМІЯ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

Гэтая першая на Беларусі недзяржаўная штогадовая прэмія заснаваная Мас-Медыя Цэнтрам і Беларускім Пэн-цэнтрам. Конкурс быў абвешчаны яшчэ ў студзені. Камісія на чале з сусьветна вядомым Народным пісьменьнікам Беларусі Васілём Быкавым разгледзіла прадстаўленыя на конкурс больш за пяцьдзесят твораў літаратурнай публіцыстыкі, газэтнай, тэлевізійнай і радыёжурналістыкі. З верасьня ў дзень нараджэньня знакамітага пісьменьніка Алеся Адамовіча (яму споўнілася б 68 гадоў) адбылося паседжаньне Камісіі па літаратурных прэміях імя Алеся Адамовіча. Прэміямі заахвочаныя журналісты Валянцін Жданко, Анатоль Казловіч, Павел Шарамет, Віталь Цыганкоў, кінадакумэнталісты Самсон Палякоў і Анатоль Алай. Яны атрымалі грашовую прэмію па 500 даляраў ЗША й мэдалі, выробленыя ў Празе па эскізе менскага мастака Льва Талбузіна. На адваротным баку мэдаля выгравіраванае прозьвішча лаўрэата. Планка мэдаля аформленая ў бел-чырвона-белых нацыянальных колерах.




# ПРАПАНУЮ

**26 красавіка 1996 года спаўняецца 10 год з дня Чарнобыльскай катастрофы. Няма, напэўна, ніводнага цывілізаванага чалавека ў сьвеце, які б ня ведаў пра гэтую чорную падзею, ад якой найбольш пацярпела Беларусь. Нягледзячы на дзесяцігадовы тэрмін, наступствы катастрофы атручваюць і забіваюць насельніцтва нашай краіны. Пра гэта сьведчаць шматлікія публікацыі ў беларускіх газэтах. Асабліва моцна падарванае здароўе дзяцей Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей. Сярод іх амаль няма здаровых, шмат сур'ёзна хворых.**

**Ва ўсім сьвеце заўжды мабілізуюць усе магчымыя сродкі для дапамогі хворым дзецям. Адзін са спосабаў — выданьне дабрачынных паштовых марак. Такія маркі аператыўна былі выдадзеныя ў Арменіі падчас Спітакскага землятруса. Таму прапаную Міністэрству сувязі выдаць да гэтага трагічнага юбілею чарнобыльскую сэрыю дабрачынных марак.**

**Калі дадатковыя сродкі, якія паступяць ад продажу гэтых марак, выратуюць жыцьцё хоць аднаму дзіцяці, гэта ўжо будзе зроблена не дарэмна.**

**Вітаўт КУЗЬНЯЦОЎ, г. Менск**

# КАСЬЦЮШКАЎСКІЯ ГРОШЫ




(Працяг. Пачатак на стар. 1)

рачэньне й былі зьнішчаныя. Вонкавае афармленьне 5–, 10–грашовых і 1– й 4–злотавага скарбовых білетаў спрошчвае й сьціплае.

У Варшаве, дзе канцэнтравалася асноўная частка скарбовых білетаў, была арганізаваная адмысловая каса па разьмене буйных наміналаў на больш дробныя, адразу ж узьніклі вялікія чэргі. Захаваліся шматлікія красамоўныя сьведчаньні аб сытуацыі пры разьмене. Вось адно зь іх: вялікі натоўп адштурхнуў чатырох жаўнераў–ахоўнікаў, ад мундзіраў вайскоўцаў паадрывалі гузікі, у памяшканьні выбілі дзевяць шыбаў, паламалі колькі акон і г. д.; гэта акрамя мноства злосных слоў і праклёнаў у бок тых асобаў, якія займаліся разьменам скарбовых білетаў.

Улады павялічылі да пяці колькасьць разьменных касаў, быў таксама арганізаваны абмежаваны разьмен дробных папяровых купюраў на медную манэту. 15 кастрычніка было агалошана рашэньне пра тое, што ўсю суму плацяжоў у казну можна ўносіць толькі папяровымі грашыма.

Гэтыя захады не здымалі вастрыню праблемы, у грамадстве захоўваецца вострая незадаволенасьць скарбовымі білетамі. Улады неаднаразова зьвяртаюцца з адозвамі да насельніцтва, з заклікамі да разуменьня сытуацыі, робяцца спробы ўзьдзеяньня на патрыятычныя пачуцьці, у прыклад ставіцца рэвалюцыйная Францыя. Адначасова прымаюцца пастановы, якія ўтрымліваюць больш суровыя меры ў бок тых, хто адмаўляецца ад прыёму купюраў.

Пастановай Найвышэйшай Цэнтральнай Рады ад 20 кастрычніка прадугледжвалася, што на першы раз віноўны плаціць штраф, які ў 20 разоў пераўзыходзіць тую суму, якую адмовіўся прыняць, у наступным разе ўвесь тавар належыў канфіскацыі. У далейшым парушальнікаў чакала турэмнае зьняволеньне. Лічу мэтазгодным прывесці некалькі прыкладаў, якія пацьвярджаюць нежаданьне прымаць папяровыя грошы. У прадмесьці Варшавы Празе жаўнеры толькі лаянкай і фізычным прымусам дасягнулі таго, каб шынкары прадавалі сьпіртныя напоі за асыгнацыі. Варшаўскі мясьнік Рох ня толькі не жадаў браць скарбовыя білеты, але й абражаў тых, хто зьвяртаўся да яго з такой прапановай. Дыстылятар (перагоншчык) з вуліцы Доўгай адмовіўся прыняць асыгнацыі за два малыя кілішкі гарэлкі, прычым уголас сказаў: «Лепей вісець, чым браць паперкі». Зьмяніць сытуацыю да лепшага ўлады не маглі, толькі для пастраху прыцягвалі да судовай адказнасьці найбольш злосных парушальнікаў. Напрыклад, крымінальны суд пакараў мясьніка Роха шасьцітыднёвым зьняволеньнем.




28 кастрычніка Найвышэйшая Нацыянальная Рада аддала загад Скарбоваму адзьдзелу прыняць сакрэтныя загады, якія б садзейнічалі цыркуляцыі скарбовых білетаў. Аднак ужо ніякімі сакрэтамі ці яўнымі сродкамі дапамагчы справе было немагчыма. Да Варшавы імкліва набліжаліся рускія войскі на чале з А. В. Суворавым. 4 лістапада штурмам захопленая Прага, 7 лістапада ўмовы капітуляцыі падпісала Варшава.

Варшаўскія ўлады ўнеслі ў капітуляцыйныя ўмовы пункт, які прадугледжваў далейшае абарачэнне скарбовых білетаў, але ён ня быў прыняты. У больш позьні час, калі шэраг найактыўнейшых дзеячоў інсурэкцыі 1794 года былі арыштаваныя й прывезеныя ў Пецярбург, адзін зь іх, А. Капастас, спрабаваў узьняць пытаньне пра абарачэньне скарбовых білетаў. На допыце ён сказаў: «Но варшавское мещанство ласкается еще упованием на величайшее милосердие Её Российского Императорского Величества, что через Её Высочайшее посредничество изыскано будет средство, дабы те, теперь остановившиеся, ассигнации получили свою цену и обращение». Гэты зварот, зразумела, таксама ня меў станоўчых вынікаў.

Агульная колькасьць эмітаваных скарбовых білетаў склала суму 10833751 злоты. Пэўная іх частка трапіла ў рукі расейскіх акупацыйных уладаў і была імі зьнішчаная. Непараўнальна больш (каля 7000000 злотых) засталося на руках у насельніцтва й такім чынам аказалася, пераважна вымушаным, патрыятычным ахвяраваньнем на карысьць рэвалюцыйных уладаў.





Вышэйсказанае, у большасьці, тычыцца Варшавы й бліжэйшага наваколья. Больш–менш грунтоўных зьвестак, якія б мелі адносіны да Вялікага княства Літоўскага, знайсьці не пашчасьціла. Казаць можна толькі пра тое, што паўстанцкія ўлады ВЛК у некалькі прыёмаў атрымалі з Варшавы датацыю скарбовымі білетамі агульным лікам 700000 злотых; з–за адсутнасьці дакладных зьвестак сьцьвярджаць нешта аб іх абарачэньні й адносінах да іх немагчыма.

Акрамя скарбовых білетаў, паўстанцкія ўлады дапусьцілі ў абарачэньне й іншыя віды каштоўных папераў, Па–першае, пастановай Найвышэйшай Нацыянальнай Рады ад 14 чэрвеня 1794 года былі ўведзеныя скарбовыя абавязацельствы. Гэтыя паперы прыраўноўваліся да звонкай манэты. Выдаваліся яны ўрадавымі ўстановамі грамадзянам за тыя ці іншыя прадукты ці рэчы, першапачаткова на суму ня меней 3000 злотых. Абвяшчалася, што пасьля таго як у дзяржаве зьявіцца дастаткова колькасьць манэты, скарбовыя абавязацельствы будуць абмененыя на яе. За ўвесь тэрмін утрыманьня іх уладарам будуць налічвацца працэнты (4% у год). 15 чэрвеня была зацьверджаная форма скарбовых абавязацельстваў.

Гэтыя паперы не карысталіся вялікім посьпехам у насельніцтва, таму прымаюцца рашэньні аб зьніжэньні памера сумы, на якую могуць выдавацца скарбовыя абавязацельствы: спачатку да 500, потым да 300 і ўрэшце да 100 злотых. Такім чынам меркавалася актывізаваць іх абарачэньне. 30 ліпеня Нацыянальная Найвышэйшая Рада абвясьціла, што скарбовыя абавязацельствы будуць прымацца ад насельніцтва ў якасьці наяўных грошай.

15 верасьня Найвышэйшая Нацыянальная Рада прымае рашэньне аб перапыненьні выдачы скарбовых абавязацельстваў і наступным іх абмене на скарбовыя білеты. Маюцца зьвесткі пра тое, што скарбовых абавязацельстваў было выдадзена на суму 1906366 злотых. Частка зь іх была абмененая на скарбовыя білеты й потым, відаць, зьнішчаная рэвалюцыйнымі ўладамі, другая частка (678716 злотых) трапіла ў рукі расейскіх уладаў і таксама была зьнішчаная, а частка засталася на руках у насельніцтва. Па сваёй сутнасьці, скарбовыя абавязацельствы зьяўляліся папяровымі грашыма й адрозьніваліся ад скарбовых білетаў тым, што былі імяннымі й іх ўтрымальнікам налічваліся працэнты. У гэтым выпадку, хутчэй за ўсё, сустракаемся з некрытычным перайманьнем практыкі французскіх рэвалюцыйных уладаў, ад якога былі вымушаны хутка адмовіцца.

Па–другое, у той час інсурэкцыі атрымалі распаўсюджаньне білеты манэтнага двара (цэтлікі, цыдулы, мюнцэтлі). Вышэй адзначалася, што яшчэ 3 мая было прынятае рашэньне аб паніжэньні пробы срэбранай манэты й устанаўленьня такой манэтнай стапы, якая б перашкаджала вывазу манэты за межы краіны. 13 чэрвеня выдаецца Ўніверсал аб эмісіі срэбраных манэт згодна з новай манэтнай стапой (84 1/2 злотага з адной кельнай грыўны срэбра замест ранейшых 83 1/2 злотых). 17 чэрвеня Дырэкцыя манэтнага двара атрымала загад аб тым, каб з 18 чэрвеня манэтныя справы рыхтаваліся на падставе новай стапы. Такая справа ў тэхнічных адносінах не магла быць зьдзейсьненая імгненна, таму на нейкі час прыпынілі чаканку срэбранай манэты.

У гэты час на манэтны двор паступаюць новыя патрыятычныя ахвяраваньні высакародных металаў і каштоўнасьцяў. Існавала неабходнасьць нейкім чынам пацьвярджаць грамадзянам іх ахвяраваньні. З гэтай нагоды Дырэкцыя манэтнага двара прапанавала выпуск білетаў манэтнага двара, праект быў адобраны Скарбовым адзьдзелам. Гэтыя білеты былі разнавіднасьцю імянных аблігацыяў манэтнага двара, якія пацьвярджалі атрыманьне пэўнай колькасьці высакародных металаў, іншых каштоўнасьцяў і ўтрымлівалі абавязацельствы заплаціць здатчыку ці яго правапераемніку суму, парытэтную вартасьці ахвяраваньня. Білеты манэтнага двара ня мелі абавязковага абарачэньня, іх набывалі добраахвотна. Разам з тым яны прыраўноўваліся да звонкай манэты. У адрозьненьне ад папярэдніх каштоўных папер, мюнцэтлі выдаваліся ў абмежаванай колькасьці й былі забясьпечаныя каштоўнымі металамі. З тэарэтычнага пункту гледжаньня, гэтыя каштоўныя паперы нельга лічыць грашыма, яны зьяўляліся кароткатэрміновымі беспрацэнтнымі абавязацельствамі.

Лічу мэтазгодным пазнаёміць чытачоў зь цікавым нумізматычным помнікам, які, верагодна, таксама адносіцца да часоў паўстаньня 1794 года. У польскім нумізматычным выданьні (Gz. Kamiński, Ed. Kopicki Katalog monet polskich. 1764 — 1864. W., 1976) у разьдзеле «Манэты, ня ўведзеныя ў абарачэньне (пробныя й памятныя)» зьмешчаная фатаграфія меднага граша. Манэта з аднаго боку (рэверс) дублюе звычайную манэту таго часу й утрымлівае гербавую кампазыцыю герба Рэчы Паспалітай, вакол якой на лацінскай мове назва дзяржавы й абазначэньне наміналу. Унікальным зьяўляецца афармленьне аверса, на якім зьмешчаны бюст Т. Касцюшкі (мал. 7) замест вензеля SAR (Станіслаў Аўгуст кароль) пад каронай і даты эмісіі. На жаль, больш грунтоўных зьвестак пра гэты нумізматычны рарытэт знайсьці не ўдалося.

Валеры КАСМЫЛЁЎ,
г. Менск




# АДМЫСЛОВЫЯ ПАШТОВЫЯ ШТЭМПЕЛІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (1993 – 1994)

8–10.07.93. Першы зьезд беларусаў сьвету. Менск. Чорны. Канвэрт. Паштоўка.

26.11.93. 50 гадоў з дня вызваленьня Гомеля ад фашысцкіх захопнікаў. Гомель. Чорны. Паштоўка.

24.02.94. 50 гадоў з дня вызваленьня Рагачова ад фашысцкіх захопнікаў. Гомельская вобласць, г. Рагачоў, вузел сувязі. Чорны.

26.06.94. 50-годзьдзе вызваленьня горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Віцебск. Чорны. (Неафіцыйна прымянялася масьціка цёмна-чырвонага, цёмна-зялёнага й фіялетава-сіняга колераў.) Паштоўка.

28.06.94. 50 гадоў з дня вызваленьня Магілёва. Чорны. Паштоўка.

3.07.94. 50-годзьдзе вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Менск. Чорны. Канвэрт.

8.07.94. Мастакі Беларусі. Менск. Чорны. Штэмпель зь пераводнай датай «Першы дзень». Канвэрт.

16.07.94. 50 гадоў вызваленьня ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гродна. Чорны. Канвэрт.

23.07.94. 50-годзьдзе вызваленьня Брэста ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Брэст. Чорны, фіялетавы — неафіцыйны. Паштоўка.

27.07.94. Дзень Незалежнасці. Менск. Чорны.

30.09.94. Птушкі Беларусі. Менск. Чорны. Першы дзень. Тры канвэрты. Штэмпель зь пераводнай датай «Першы дзень».

4.10.94. Сусьветны дзень пошты. Менск. Чорны.

17.10.94. Шэдэўры. Менск. Чорны. Штэмпель зь пераводнай датай «Першы дзень».

31.10.94. 150-годзьдзе зь дня нараджэньня І. Рэпіна. Менск. Чорны. Штэмпель зь пераводнай датай «Першы дзень». Канвэрт.




























# Пра нас у Польшчы

Вось ужо 36 гадоў рэгулярна, раз у квартал, у г. Лодзі выходзіць «Гістарычна-дасьледчы філятэлістычны бюлетэнь» (**«Historyczno-Badawczy Filatelistyczny Biuletyn»**, далей «ГДФБ»). Гэта важкі па аб'ёме й зьмесце часопіс, які карыстаецца вялікім попытам ня толькі ў Польшчы, але шмат у якіх краінах сьвету, асабліва ў тых, дзе маецца значная колькасьць выхадцаў з Польшчы, перш за ўсё ў ЗША, Англіі, Канадзе.


HISTORYCZNO - BADAWCZY
BIULETYN
FILATELISTYCZNY
PZF

„BIAŁORUSKI KOLEKCJONER"

Ukazały się ostatnio kolejne numery „Białoruskiego Kolekcjonera" - nr 4 (11) z sierpnia 1994 r. i podwójny - nr 1-2 (11-12) z

За час існаваньня часопіса на яго старонках надрукавана шмат артыкулаў аб розных асьпектах гісторыі польскай пошты, айчыннай і сусьветнай філятэліі. На шмат якіх філятэлістычных міжнародных выставах «ГДФБ» неаднаразова адзначаўся самымі высокімі ўзнагародамі па класе філятэлістычнай літаратуры — вялікімі й малымі залатымі й срэбнымі мэдалямі.

Сярод шэрагу сталых раздзелаў часопіса ёсьць і такі — «Маркі, сьцягі й гісторыя», які на працягу некалькіх гадоў вядзе сябра праўленьня Лодзінскага адзьдзяленьня Польскага саюза філятэлістаў вядомы ў Польшчы й за яе межамі філятэліст і публіцыст Вітольд Жураўскі. У 1993 годзе ён выступіў у «ГДФБ» з грунтоўным артыкулам па гісторыі Беларусі ў люстэрку паштовых выпускаў краінаў сьвету. Артыкул багата ілюстраваны цікавымі паштовымі выпускамі Беларускай Народнай Рэспублікі, маркамі Рэспублікі Беларусь, Польшчы й іншых краінаў.

У сьнежаньскім нумары ён жа зьмясьціў абзорны артыкул пра два апошнія нумары газэты «Беларускі калекцыянер», у якіх станоўча ацаніў агульны напрамак газэты, падкрэсліўшы значна ўзрослае прафэсійнае майстэрства яе аўтарскага калектыву.

*Л. Г.*

# БАГДАНОВІЧ З ГАЛІВУДА, БРАГА З БРАЗІЛІІ... ДЫ ІНШЫЯ

Што ні кажыце, а ўсё ж аматар чагосьці й калекцыянер чагосьці — паняцьці розныя. Вось і ў нядаўна паўтораным па тэлебачаньні фільме «Магія чорная й белая» прагучала слушная думка аб калекцыяваньні. Возьмем тую ж фэлятэлію — гэта ня толькі зьбіраньне марак, пазнаньне цэлага сьвету ў комплексе. Зьбіраем маркі, а ў хаце маем і Мэтрапалітэн Музеум, і Луўр, і ўнікальныя прыродныя заказьнікі... Хіба скажаш такое пра звычайнага аматара, напрыклад, жывапісу? Але не, вось лепшы прыклад...

Усе мы зь дзяцінства аматары кіно. Паглядзеў фільм і... забыўся. У лепшым выпадку запомніш найбольш выдатных актораў, пэўныя нюансы сюжэту... І ўсё. Ніякай магчымасьці для глыбейшага аналізу, для параўнаньняў, пакуль не надумае кінапракат або тэлебачаньне падарыць чарговую сустрэчу з гэтым фільмам. «Жаданьне параўноўваць і аналізаваць застаецца ў поўнай залежнасьці нават не ад цябе самога, ад кагосьці іншага.

Зусім іншае я адчуў, калі з аматара кіно ператварыўся ў калекцыянера. Калекцыяную ўсе носьбіты кінаінфармацыі: відэакасэты, лазэрныя дыскі, кінапрэсу, літаратуру. Сёй-той, відаць, запытае: ці ў такім выпадку не дэфармуецца нацыянальная сьвядомасьць калекцыянера? Бо Беларусь — адна зь нямногіх рэзэрвацыяў цывілізацыі, што засталася цалкам вольнай ад ўсяго гэтага: на дзяржаўнай мове карэннага насельніцтва гэтай краіны не выдаюцца ні відэакасэты, ні кінапрэса, ні тым больш лазэрныя дыскі. Але калі пытаньне паставіць інакш — скажам, што рабіў бы сусьветны кінематограф без беларусаў? — дык акурат відэакалекцыянер можа адкрыць для сябе крыніцу ўмацаваньня нацыянальнай самасьвядомасьці.

Што ж, «Міколку-паравоза» або «Дзяржаўную граніцу» няма каму выдаваць на відэакасэтах. Ды гэта не бяда: іх беларускасьць — сумніўная, а савецкасьць — стоадсоткавая. Затое шмат інфармацыі дае беларускаму відэакалекцыянеру прадукцыя сусьветных гігантаў відэаіндустрыі—кампаній «Universal», «Warner Bros», «Gaumont», «Rete Italia», «Metro Goldwyn Mayer» і г. д. Скажыце, пры чым жа тут Беларусь? Ды вось не забывайма хоць бы пра тое, што апошнюю з названых кінакампаній заснавалі ў Амэрыцы беларускія габрэі Голдвін і Маер. Наша прэса чамусьці схільная забываць пра гэта, а вось палякі, маючы і ў сябе дома, і на эміграцыі такія славутасьці, як Анджэй Вайда, Кшыштаф Занусі, Раман Паланскі, не забываюць мімаходзь нагадаць і пра этнічныя карані амэрыканскага апэратара Анджэя Бартковяка, камэра якога глядзела й на Арнольда Шварцэнэгера (у фільме «Двайняткі»), і на Майкла Дугласа (у «Руйнаваньні»). Дый чэхі, саромячыся таго, што сусьветны кінагігант Мілаш Форман у свой час зьбег менавіта ад іх, час ад часу нагадваюць сьвету і пра чэскае паходжаньне вядомага апэратара Міраслава Ондрычака, які здымаў, напрыклад, фільмы рэжысэркі Пэні Маршал «Іхняя ўласная ліга» з удзелам Мадонны.

А што ж мы, беларусы? Ці не прачытаць нам больш уважліва выхадныя зьвесткі хоць апошняга з названых відэабэстсэлераў. Во! Ці не з нашых Джон Валанчык, арганізатар здымак таго фільма? А ці не прыглядзецца ў французскім кінематографе да беларускіх космаў кампазытара Уладзіміра Космы?

Ці вось бяру напулярную касэту «Чалавек, які бяжыць». На вокладцы — Арнольд Шварцэнэгер. Гэтага амэрыканскага немца ведае ўвесь сьвет. Дык чаму хоць бы нам, беларусам, не прачытаць драбнейшы шрыфт на гэтай касэце й не знайсьці там амэрыканскага беларуса Эдуарда Варшылку, які прымаў тут удзел у працы над мантажом фільма? Ну, а не заўважыць галівудскую славутасьць рэжысэра Джозэфа Манкевіча — увогуле цяжка. Столькі шмат у «Беларускай энцыклапэдыі» Манкевічаў, а аўтара «Клеапатры» няма.

Уся мая сусьветная відэакалекцыя — гэта сустрэчы з суродзічамі-беларусамі ва ўсім сьвеце. Разглядаешь стракатыя вокладкі амэрыканскіх, нямецкіх, французскіх кінавыданьняў і — сыплюцца на маю галаву беларускія пытаньні... Вось цікава, на якой вуліцы якога беларускага горада жылі продкі Джона Вуліча (у прастамоўі Янка Вулічны), які рабіў спэцэфэкты адной з экранізацыяў Стывэна Кінга «Цёмная палова»? Дый ці ня сьняцца беларускія волаты-дубы Тому Дубенскаму, асыстэнту рэжысэра? Ці вось яшчэ напароўся тутака ж Джозя Ўрублеўскага, што нават здалася іхняя «Orion pictures» суцэльным «Беларусь-фільмам», толькі не захопленым асаднікамі з усходу, што пнуцца нам у старэйшыя браты. Гэта ж прыгадваецца песьня Сержука Сокалава-Воюша «Апошні бой Валерыя Урублеўскага» пра нашага змагара з тымі «братамі», аднаго з выдаўцоў першай беларускай газэты «Мужыцкая праўда». І якое ж імя меў прадзед Джоя Ўрублеўскага?

Нельга не прыгадаць і майстра амэрыканскага рэтра-кіно Пітэра Багдановіча, зорку хоць і драбнейшую за нашага Максіма, але таксама даволі вядомага. Нядаўна на наш відэарынак з пэўным спазьненьнем трапіла касэта зь ягоным фільмам «Нелегальна твой», якая зьдзівіла прыхільнікаў Багдановіча сваім жанрам, бо гэта ўжо не рэтра-кіно, а жвавы сучасны дэтэктыў.

Актора Пітэра Юрасіка, якога я знайшоў на касэце Кевіна Костнэра «Ідэальны сьвет», наш шырокі глядач заўважыў яшчэ і ў папулярным тэлесэрыяле «Хіл-стрыт блюз». Цікавае прозьвішча, хіба, не? Але чаму, скажам, Зьміцер Бартосік — беларускі бард, Янка Запруднік — беларускі журналіст, Анатоль Фядосік — беларускі фальклярыст... а вось Пятрусь Юрасік — актор не беларускі, а амэрыканскі?.. Мо таму, што яму, як і ягонай калезе Лаліце Давідовіч (гл. фільмы «Раздарожжа», «Скачок веры» ды інш.), даводзіцца жыць і працаваць у Амэрыцы. І ў гэтым менш дзіўнага, чым калі б кіназорка, якой выпала жыць і працаваць у Беларусі, праславілася прапагандай расейскай класікі і выключна на расейскай мове.

Зрэшты, вельмі шмат такіх прыкладаў на заходнім відэарынку, калі нашчадка нашых беларускіх крыніцаў лёгка могуць прысвоіць сабе і палякі, і расейцы, і ўкраінцы. Напрыклад, Цім Казурынскі, які зьняўся ў камэдыі Майкла Дынэра «Несучыся рысьсю», Стэфан Табалоўскі, які сыграў ролю Ніда Раэрсана ў фільме Гарольда Рэміса «Дзень сурка», Дэйвід Сосна, які разам з Эдзьдзі Мэрфі прадзюсаваў фільм «Вандроўка ў Амэрыку». Але і ў нас тут ёсьць свае аргумэнты. Скажам, праваслаўны сьвятар на Беласточчыне Рыгор Сосна хоць і жыве ў Польшчы, але лічыць сябе беларусам, рэгулярна выступае ў тамтэйшай беларускай газэце «Ніва» ды ў беларускіх праграмах Варшаўскага і Беластоцкага радыё. Так што, прынамсі, само прозьвішча нашае, беларускае.

А ёсьць жа прыклады і амаль цалкам бясспрэчныя. Бадай, усе глядзелі камэдыю Джыма Абрагамса «Гарачыя галавы»? Дык вось, там зусім не на апошніх ролях зьняўся ня хто іншы, як Efrem Zimbalist-малодшы. Старэйшы, Sam Zimbalist, адкрыўся мне на касэце ў старым фільме Мэрвіна Лероя паводле Г. Сянкевіча, «Quo vadis». Там ён быў прадзюсарам. Дык мо хтосьці яшчэ з Цымбалістаў-старэйшых быў цымбалістам у якімсьці тутэйшым аркестры беларускіх народных інструмэнтаў?

Не дае падстаў сумнявацца ў кроўнай роднасьці й шаноўны Рэндзі Шаноўскі, адзін з асыстэнтаў апэратара ў фільме Дзімітрыя Саціракіса «Бэвэрлі-Хілзкія выродкі». А калі галандзец Георг Шлёзэр рабіў у Амерыцы рымэйк свайго фільма «Чалавек, які жадаў ведаць», дык на новым відэадыску, які атрымаў назву «Зьнікненьне», знаходзім і беларускія імёны — асыстэнтам сваім Шлёзэр абраў Эрыка Петаркоўскага, апэратарам — Пятруся Сушыцкага.

У Галандыі цяжка было знайсьці такіх памагатых, хоць да Беларусі тут, здаецца, бліжэй. Ці можа ён чуў слушную песьню, што «Так далёка нам яшчэ да Беларусі», або іншую — «Сапраўдны беларус у Штатах пражывае»?

Памятаючы гітарыста беларускіх рок-гуртоў «7 герц» і «Мроя» Алега Піпіна, інакш глядзім і знакаміты баявік Рычарда Піпіна «Кібарг-вышуковец».

Прызнацца, у сваёй асабістай відэакалекцыі я надзвычайную ўвагу надаю французскай, італьянскай прадукцыі. Асабліва прываблівае творчасьць гігантаў інтэлектуальнага кіно кшталту Федэрыка Феліні, П'ера Паола Пазаліні, Бэрнардо Бэрталючы. І якая ж была радасьць, калі ў выходных зьвестках даўняга экзэмпляра маёй італьянскай калекцыі — з чатырохгадзіннай карцінай Бэрнардо Бэрталючы «XX стагодзьдзе» — побач з Робэртам дэ Ніро, Жэрарам Дэпардзье, Бэртам Ланкастарам знайшоў і Катрын Касяк. Гэта ж стопрацэнтовая цёзка беларускага гісторыка з ЗША Івана Касяка. Так што беларусы цэлымі касякамі гуляюць па сусьветным кінематографе, асабліва праславіўшы нашыя прозьвішчы ў Бразіліі.

Бразільскі рэжысэр Гектар Бабенка — гіганцкая постаць ў сусьветным кіно. Калі хто сумняваецца, што гэта беларускае прозьвішча, дык раю вам пазнаёміцца зь цяперашнім рэктарам Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэта Эрнэстам Бабенкам.

Што сама цікавае, толькі ў фільме Гектара Бабенкі «Пацалунак павучыхі» задзейнічаны цэлы касяк беларусаў. Ролю той самай «павучыхі» і яшчэ некалькіх жаночых персанажаў сыграла Соня Брага. Касьцюмы ёй распрацоўвала Зээз Брага, занята ў ролях і Анна-Марыя Брага. Гукарэжысэрам у гэтай бразільскай кінагрупе быў Вал (Валік) Куклоўскі, асыстэнтам мастацкага кіраўніка — Соланг Масяроўскі. А адзін з асыстэнтаў — Брус Маркаў — ці не сваяк гітарысту беларускага рок-гурта «Бонда» Янку Маркаву або, калі хочаце, ягонаму бацьку, славутаму скульптару Барысу Маркаву? Калі нават гэта ня так, дык няма сумненьняў, што ягоны калега Джоэль Папернік вядзе свой радавод зь вёскі Паперня Менскага раёна, як бессумніўна паказвае на месца нараджэньня і прозьвішча амэрыканскага апэратара Джорджа Мінскага.

Часам беларускае слова адрозьніваецца ад чужамоўнага толькі напісаньнем. Напрыклад: воўк, волк, wilk, вілк, wolf. Вы пазналі беларускі варыянт? Дык якое ж можа быць паходжаньне амэрыканскай актрысы Susanne Wouk? Праўда, фільм кампаніі «New Horizons Home Video» («Прыхаваная зброя»), дзе яна здымалая, расказвае сьвету больш пра падзеі ў Югаславіі, а не Беларусі, бо большую актыўнасьць тут праявіў рэжысэр і сцэнарыст (амэрыканскі, але з Югаславіі) Мілан Жыўкавіч. А што беларусы ў сусьветным кіно? Аказваецца, не так іх і мала, а дзе вынікі?

Не сьпяшайцеся з высновамі. Вынікі ёсьць, і нават надзвычай прыкметныя. У паўнаметражным мультфільме Дона Блата «Файвэл у Новым Сьвеце», які прадзюсаваў славуты Стывэн Спілбэрг, адзін з галоўных герояў мае імя Вялікаая Мыш зь Менску. І цяжка менчуку не адчуць у душы пачуцьцё гонару, гледзячы амэрыканскі відэабэстсэлер, дзе праз увесь экран рухаецца страшэнны волат, на якім выразна напісана «Gigant Mouse of Minsk». Прычым, героі фільма, правінцыялы з Шосткі, апынуўшыся ў Амерыцы, з замілаваньнем прыгадваюць райскі куток — Менск, дзе ім даводзілася сустрэцца са сваёй надзеяй і апорай, гэтым самым Gigant Mouse of Minsk.

Скажыце, мала тут беларускага? А ці больш яго ў тутэйшых экранізацыях Караткевіча, зробленых бяз шчырага пачуцьця й звычайнай ахайнасьці. Узяць хоць бы кінавэрсію «Чорнага замка Альшанскага», дзе ў пагоні за расейскамоўнымі беларусамі расейскамоўныя фашысты разьязджаюць на савецкіх аўтамабілях.

Ды ня бяда. Беларусу няма чго ўжо спадзявацца на гэтай зямлі. Апынуўшыся ў рэзэрвацыі чатырох сьценаў, я гляджу калекцыю сваіх відэакасэтаў, кніг і думаю: а мо сабяруцца калі-небудзь разам бразільскі рэжысэр Гектар Бабенка, ягоны калега Пітэр Багдановіч са Штатаў, апэратар Пятро Сушыцкі, кампазытар Уладзімір Косма, запросяць акцёраў кштaлту Соні Брагі, Лаліты Давідовіч, Цімафея Казурынскага, Стэфана Табалоўскага дый нашай Стэфаніі Станюты і з дапамогай крутых сьпецэфектаў у стылі Джона Вуліча пакажуць сьвету, у чым сутнасьць беларускага характару. А сюжэты лёгка знайсьці й на этнічнай зямлі (у таго ж Караткевіча, Быкава, Аляхновіча), і па ўсім сьвеце (у канадскага Акулы, штатаўскага Сяднёва, польскага Пятручука). Мо й прадзюсар знойдзецца яшчэ больш блізкі й прыхільны да гэтай зямлі, чым нават Спілберг.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА,*
г. Менск

◆◆◆

*На здымку:* кадр з фільма Джозэфа Манкевіча «Клеапатра».

# НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ ПА НУМІЗМАТЫЦЫ

Нарэшце ў продажы зьявіліся дзьве новыя манаграфіі вядомага менскага навукоўца Валянціна Рабцэвіча, якіх так доўга чакалі беларускія нумізматы. Манаграфіі адрасуюцца прафэсійным нумізматам і калекцыянерам, музэйным супрацоўнікам і краязнаўцам, выкладчыкам і студэнтам ВНУ, настаўнікам школаў, усім, хто цікавіцца беларускай і замежнай гісторыяй.

II. «Российско-«польские» монетные эмиссии эпохи Петра I». Выд. АВТОВАЗБАНКА. «Современник». Тальяцьці, 1995. 19,5 ум.-выд. аркушаў (310 стар.). Наклад 1000 асобнікаў. У Беларусь паступіла 270 асобнікаў. Кошт — 120000 руб. РБ. Кніга мае шмат ілюстрацыяў і 8 дадаткаў, у ліку іх каталог-вызначальнік: 24 таблі цы з 164 двухбаковымі здымкамі манэтаў.

Кніга прысьвечаная манэтам «надзвычайных абставінаў» XVII — XVIII стст.— «сеўскім чэхам», «шэстакам» і «тынфам», якія чаканіліся ў Сеўску (Браншчына) і Маскве. Маскіруемыя пад польска-літоўскія наміналы, гэтыя манэты прадназначаліся для абарачэньня за межамі Расейскай дзяржавы: «чэхі» — у Беларусі, Летуве, на Украіне й у Польшчы; «шэстакі» й «тынфы» — у Беларусі, Летуве, на Украіне, у Польшчы, Саксоніі й Прусіі.

У аснове дасьледаваньня — дакумэнты архіваў С.-Пецярбурга, Масквы, Менска, актавыя, эпісталярныя, нусізматычныя й іншыя выданьні XVII — XX стст., музэйныя зборы й прыватныя калекцыі Беларусі, Летувы, Украіны, Расеі, Нямеччыны, Польшчы й ЗША.

Зрабіць замову можна па адрасе: Беларусь, 220060, г. Менск, п/с 109, тэл. (0172)565332.

II. «Нумізматыка Беларусі». Выд. «Полымя». Менск, 1995. 46,6 ум.-выд. аркушаў (688 стар.). Наклад 5000 асобнікаў. Кошт 180000 руб. РБ.

У кнізе прыведзеная гісторыя грашовага абарачэньня на тэрыторыі сучаснай Беларусі зь першых стагодзьдзяў нашай эры да нашых дзён. Маецца шмат ілюстрацыяў у тэксце, 8 дадаткаў: 1. Манэтны каталог: 244 табл. з 1637 двухбаковымі здымкамі манэтаў; 2. Геральдычныя выявы, вензелі, манаграмы й іншыя абрэвіятуры на манэтах: 22 табл. з 411 малюнкамі; 3. Ініцыялы дзяржаўных асобаў на манэтах Вялікага княства Літоўскага, Польшчы й Саксоніі: 113 ініцыялаў і іх расшыфроўкі; 4. Манэтныя двары Велікага княства Літоўскага, Польшчы й Саксоніі: 29 манэтных двароў, расшыфроўка іх літарных абазначэньняў, гады дзейнасьці, рэестры манэтаў; 5. Ініцыялы дзяржаўных асобаў на манэтах Расеі па 1917 год: 111 ініцыялаў; 6. Манэтныя двары Расеі па 1917 год і іншых краінаў дзе чаканіліся расейскія манэты: 31 манэтны двор; 7. Манэтныя двары РСФСР, СССР і Вялікабрытаніі, дзе чаканіліся манэты па замовах Савецкага ўрада: 7 манэтных двароў; 8. Догляд за старажытнымі манэтамі: рацэпты чысткі й кансэрвацыі. Зрабіць замову можна па адрасе: Беларусь, 220600, пр. Машэрава, 11, выдавецтва «Полымя», служба маркетынга, тэл. (0172)239725.

Малое прадпрыемства "АГУЛ"

Распрацоўка праектаў вентсістэмаў і іх мантаж.

Пуска-наладка вентсістэмаў на праектныя расходы паветра.

Вызначэнне нормаў гранічна дапушчальных выкідаў і кантроль ГДК.

Выпрабаванне і наладка пылагазалавільных установак.

Складанне экалагічных пашпартаў прадпрыемстваў.

Тэл/факс: (0172) 350-870

Беларусь, 220131, Мінск, п/с 417. E-mail: AGUL.pkp2@pkp2.belpak.minsk.by

**ЛЕЎ КОЛАСАЎ**

# СТАРОНКІ ГІСТОРЫ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛЯТЭЛІІ

Філятэлістычны рух у нашай краіне мае доўгую й цікавую, але яшчэ не вывучаную й не напісаную гісторыю. У многіх краінах сьвету ўжо даўно праведзеная архіўна-досьледная праца, напісаныя шматлікія артыкулы, выдадзеныя манаграфіі па гісторыі мясцовых філятэлістычных арганізацыяў, адсьвяткаваныя розныя юбілеі філятэлістычных рухаў. (У Польшчы, напрыклад, у 1993 г. адзначанае 100-годзьдзе зараджэньня нацыянальнай філятэліі.) Але няма яшчэ сярод гэтых матэрыялаў хаця б невялікага артыкула ці нарыса па гісторыі беларускай філятэліі. На працягу многіх гадоў я зьбіраў матэрыялы па гісторыі філятэліі на Беларусі (і калекцыяваньня наогул). Але мне не ўдалося знайсьці якіх-небудзь архіўных дакумэнтаў, што асьвятлялі б гісторыю беларускай філятэліі ў канцы XIX — пачатку XX стст. Ня знойдзеныя такія дакумэнты й за перадваенныя гады. (На думку пецярбургскага дасьледчыка М. М. Глейцзера, усе архіўныя матэрыялы філятэлістычных арганізацыяў Беларусі 20—30-х гг. загінулі ў гады вайны.) Амаль няма ніякіх дакумэнтаў пра стварэньне першых клюбаў, таварыстваў калекцыянераў у гарадах Беларусі нават у недалёкія 50-я гады.

У гэтай гісторыі яшчэ шмат нявысьветленых і забытых фактаў і падзеяў, белых плям, недакладнасьцяў, не апісаныя трагічныя падзеі гісторыі 30-х гадоў. Амаль ніводная абласная ці гарадская філятэлістычная арганізацыя не стварыла свайго мінулага й сучаснага летапісу. (Невялікая па аб'ёме гістарычная даведка напісаная ў Гомлі.)

Не магу назваць дакладнай даты нараджэньня філятэліі ў Беларусі, пакуль не валодаю такімі зьвесткамі. Але з упэўненасьцю магу сказаць, што філятэлістычны рух у нашай краіне мае сваю гісторыю, і доўгую, і цікавую. У Расеі першыя філятэлісты зьявіліся ў 60—70-я гады XIX стагодзьдзя. У верасьні 1883 года ў Маскве ствараецца таварыства філятэлістаў, у сьнежні таго ж года ў Санкт-Пецярбурзе арганізуецца сэкцыя Міжнароднага саюза філятэлістаў у Дрэздэне, у 1910 годзе гэтая сэкцыя рэарганізуецца у Расейскае таварыства філятэлістаў (РТФ). Да канца XIX стагодзьдзя гурткі й таварыствы філятэлістаў існавалі ў Маскве, С.-Пецярбурзе, Кіеве, Рызе, Варшаве, Адэсе, Гельсінгфорсе. У гэтым сьпісе няма ніводнага беларускага горада, але гэта ня значыць, што на Беларусі не існаваў ні адзін філятэліст. Проста пакуль няма такіх дадзеных, пакуль яны не знойдзеныя. У дарэвалюцыйны пэрыяд у Расеі выдаваліся каталогі, кнігі, выходзіла некалькі філятэлістычных часопісаў: «Маркі» (Кіеў, 1896—1901), «Всемирная почта» (С.-Пецярбург, 1897—1898), «Коллекционер» (Пскоў, 1902), «Марки и коллекционер» (С.-Пецярбург, 1903—1910) і іншыя. У 1907—1908 гг. у Расеі назіраецца ўздым філятэлістычнага руху, а гады 1910—1914-я былі часам сапраўднага філятэлістычнага буму. Папулярныя газэты й часопісы стракацелі філятэлістычнымі аб'явамі й артыкуламі на філятэлістычную тэматыку. У буйных гарадах існавалі філятэлістычныя крамы. Да 1914 года «Ілюстраваны альбом марак усіх краінаў» вытрымаў 15 выданьняў. Сусьветная вайна зьнізіла цікавасьць да філятэліі й спыніла дзейнасьць таварystваў.

Сказанае вышэй наводзіць на думку, што не магла «прайсьці філятэлія міма» нашага краю. Былі ў беларускіх гарадах філятэлісты, можа, не было гурткоў, таварыстваў, але людзі, якія захапляліся зборам марак, былі. І дадзеныя пра іх трэба шукаць.

Бо зьявілася ж у часопісе «Родник» за 1910 г. (№ 7—8, с. 219), які выдаваўся для юнацтва А. Сысоевай і А. Альмедзінгенам, абвестка юнага філятэліста зь Пінска такога зьместу: «Уступлю ў клуб «Родника». Жадаю мяняцца маркамі. Ці няма ў каго сербскай, узамен даю аўстралійскую. І. Георгіеўскі. Пінск». Гэта пакуль першае вядомае мне ўпамінаньне ў прэсе пра беларускага зьбіральніка марак. Аб'ява наводзіць на думку: юны школьнік ці гімназіст ня мог сам па сабе захапіцца паштовымі маркамі, стаць філятэлістам, няхай нават у самым «першабытным стане». Не такім ужо папулярным было ў той час калекцыяваньне марак. Відаць, юнак меў прыклад: навучыўся філятэліі ў сваіх юных сяброў ці ў дарослых зьбіральнікаў. Пінск у 1910 годзе быў ня вельмі вялікім уезным горадам, і калі ў ім былі філятэлісты, то, відаць, былі яны й у буйнейшых губернскіх гарадах. Застаецца толькі гэтыя меркаваньні й здагадкі пацьвердзіць, трэба прыкласьці намаганьні да пошуку любых — архіўных, газэтных — матэрыялаў, зьвязаных з пачаткам філятэлістычнага руху на Беларусі.

Вось яшчэ адзін доказ таго, што на пачатку стагодзьдзя філятэлісты на Беларусі былі. Былы дырэктар Кобрынскага гістарычнага музэя А. М. Мартынаў, ураджэнец Кобрына, у адным са сваіх лістоў да мяне напісаў, што ён «філятэліст з даўжэзнай барадой — маркі пачаў зьбіраць у далёкім 1916 годзе». Натуральна, што гэтае паведамленьне мяне вельмі зацікавіла, і я папрасіў яго распавесьці, як ён стаў зьбіраць маркі. Вось што ён на гэта адказаў: «У 1915 годзе нашая сям'я з Кобрына эвакуявалася ў горад Рагачоў тагачаснай Магілёўскай губерні. Я вучыўся ў рэальным вучылішчы, дзе панавала павальнае захапленьне калекцыяваньнем марак. Не прайшло гэтае захапленьне міма мяне. А тут яшчэ шчасьце прываліла ў 1918 годзе. Над Дняпром стаяў так званы «замак Боны», дзе разьмяшчаўся склад рэчаў штаба Яраслаўскага пяхотнага палка, які адпраўляўся на фронт. Для нашых-то мэтаў будынак вызвалілі, усё дабро, што засталося там, выкінулі. Па склоне гары былі раскіданыя ўсялякія рэчы, і сярод іх валяліся маркі, якія салдаты вытрахнулі з нейкай скрыні. Быў сакавік-красавік, таяў сьнег. Натуральна, філятэлістычная брація накінулася на гэтыя маркі. Мы з братам прыносілі дахаты цэлыя сумкі гэтага мокрага й буднага дабра. Мылі, сушылі. Там былі акуратна зьвязаныя пачкі па 100—200 штук розных марак царскай Расіі, чыстых і гашаных, былі цэлыя лісты гэтых марак, мноства пісьмаў з маркамі. Былі там і замежныя маркі Францыі, Фінляндыі канца XIX стагодзьдзя й шмат што іншае. Ужо ў 20-я гады я прадаваў гэтыя французскія маркі фірме Цумштэйна. Гэтая знаходка — так званы філятэлістычны клад — спрыяла ўздыму філятэлічнай цікавасьці ў рагачоўскай грамадскасьці. У 1918 годзе рагачоўская пошта прадавала царскія маркі з польскай наддрукоўкай арла (Пошта Першага Польміскага Корпуса генерала Доўбар-Мусьніцкага.— Л. К.), якія мы атрымоўвалі, абавязкова патрабуючы, каб іх пагасілі. Тады лічылася, што для калекцыі чыстыя не падыходзяць». Безумоўна, у рагачоўскіх рэалістаў не было ніякіх філятэлістычных ведаў. Магчыма, пазьней мала хто зь іх стаў філятэлістам, але тады цікавасьць да марак была вялікая. А. М. Мартынаў захаваў гэтую цікавасць праз гады да сёньняшняга дня. Успаміны старога філятэліста адкрылі нам дагэтуль невядомую старонку гісторыі беларускай філятэліі — рагачоўскую. Але гэта ня ўсе філятэлістычныя зьвесткі па гісторыі, што паведаміў мне А. М. Мартынаў. Перад першай сусьветнай вайной і ў Кобрыне быў філятэліст — начальнік мясцовай паштовай канторы Рыгор Сацэвіч зьбіраў маркі. Пра філятэлістаў Кобрына 20—30-х гадоў па ўспамінах А. М. Мартынава я распавяду ніжэй.

Гісторыя разьвіцьця філятэліі ў Беларусі да 1917 года пакуль што апісваецца толькі вышэйпрыведзенымі ўрыўкавымі фактамі.

У перыяд 1917—1922 гг. пра які-небудзь філятэлістычны рух на Беларусі ці пра асобных філятэлістаў нічога невядома. Але пасьля заканчэньня грамадзянскай вайны ва ўсіх беларускіх гарадах зьяўляюцца парасткі гэтага руху, даюць пра сябе знаць філятэлісты. І гэта дадаткова пацьвярждае маю думку пра тое, што да 1917 года філятэлія на Белерусі існавала. У 1922 годзе у Савецкай Расеі было прынятае рашэньне пра арганізацыю таварыства філятэлістаў. Яно было створана ў 1923 годзе й называлася Усерасейскае таварыства філятэлістаў (УТФ), іншы раз прымянялася й неафіцыйная назва — Усерасейскае таварыства калекцыянераў (УТК), т. ш. у гэтым таварыстве былі ня толькі філятэлісты. Яго адзьзяленьні былі адчыненыя й у Беларусі — у Менску, Гомлі, Рагачове, Віцебску, Мазыры.

Старшыней Беларускага адззяленьня быў абраны вядомы ў той час філятэліст Байгер Аляксандр Паўлавіч (1924 г.). Вядомыя прозьвішчы некаторых менскіх калекцыянераў тых гадоў. Ня ўсе яны былі філятэлістамі, частка зь іх захаплялася баністыкай, нумізматыкай, філякартыяй. Гэта Палякоў І. Б., Бярозкі, Круталевіч, Рачкоўскі, Сушкевіч, Вазьнясенскі А. М., Гольдблат, Докшыцкі Т., Сьнежын, Ванцлоў В. (1924 г.). Не захавалася якіх-небудзь зьвестак пра калекцыі гэтых людзей, пра іх грамадскую працу ў адзьдзяленьні. 25 сьнежня 1924 г. у Маскве адкрыўся 1-ы Ўсесаюзны зьезд Усерасейскага таварыства філятэлістаў (усяго 69 дэлегатаў). На зьездзе ад БССР прысутнічала 5 дэлегатаў. Па зьвестках гэтага зьезда, Беларускае адзьдзяленьне УТФ займала ў той час 7-е месца па колькасьці сяброў, пасьля Маскоўскага губадзьдзела (200 чал.), Харкаўскага губадзьдзела (45 чал.), Ленінградскага губадзьдзела (40 чал.). Беларускае адзьдзяленьне УТФ мела 10 чалавек. Столькі было зарэгістраваных калекцыянераў, натуральна, што няўступіўшых у сябры УТФ па розных прычынах было значна больш. У мяне няма зьвестак, ці ўдзельнічалі беларускія філятэлісты ў І-й Усесаюзнай філвыставе (XII.1924—01.11.1925), што праходзіла ў Маскве падчас работы І-го зьезда УТФ.

У тыя гады паўсюль у буйных гарадах СССР выдаваліся адрасныя кніжкі калекцыянераў, з каторых сёньня можна пачэрпнуць зьвесткі й пра беларускіх калекцыянераў. У 1926 годзе ў Волагдзе «Адрасная кніжка расейскіх калекцыянераў» была выдана Тарасавым. У ёй мы знаходзім зьвесткі пра беларускіх калекцыянераў: «Бабруйск — Духонін І. Л., 14 год, маркі, боны; Равіковіч Б. В., 21 год, маркі, боны; Навабеліца, Гомельскай губ.— Гурэвіч Я. Б., 20 год, боны; Менск — Вазьнясенскі А. М., 37 год, боны; Пісарчык Б. А., 18 год, маркі, паштоўкі; Юшкевіч М. А., 27 год, маркі, боны». Як бачым, сьпіс невялікі. Большасьць калекцыянераў з гэтага сьпіса цікавілася маркамі й бонамі.

Падобная кніжка была выдадзена ў 1929 годзе (перавыдадзеная ў 1930 г.) у Пскове Вілінбахавым Б. А. Называлася яна «Адрасная кніжка сяброў калекцыянерных таварыстваў у СССР». З гэтай гнігі даведваемся, што ў Воршы жыў «Індывідуальны філятэліст Мнухін Г. А.» (адзін зь нешматлікіх даваенных філятэлістаў, які захаваў інтарэс да філятэліі й сваю вялікую калекцыю ў пасьляваенныя гады. У 60-х гадах быў старшынёй Рэчыцкага адзьдзяленьня УТФ; у Навазыбкаве — Варно М. Г., 32 гады; у Гомлі — баніст Стасенкоў Б. С., 18 год.

У 1926 годзе ў СССР была створана Савецкая Філятэлістычная Асацыяцыя (СФА), якая манапалізавала гандаль савецкімі маркамі, як у СССР, так і за межамі. СФА гандлявала за межамі СССР маркамі розных урадаў, якія існавалі на абшарах Расейскай імпэрыі ў гады грамадзянскай вайны. Асацыяцыя прынесла філятэістам краіны шмат шкоды, хаця ў пачатковы перыяд дапамагала калекцыянерам папаўняць свае зборы. СФА мела ў Менску сваё Заходняе адзьдзяленьне (вул. Савецкая, 79) і філіі гэтага адзьдзяленьня ў Віцебску (вул. Заслонава, 7), Гомлі (вул. Камсамолькая, 43), Бабруйску (вул. К. Маркса, 26), Магілёве (вул. Першамайская, 21), Воршы (вул. Працы, 11), Мазыры (вул. Слуцкая, 4), Полацаку (вул. К. Маркса, 10), Раслаўлі (вул. Пралетарская, 34). У 1939 годзе СФА была рэарганізаваная ў Галоўную філятэлістычную кантору (ГФК), якая займалася гандлем маркамі ў краіне, а філіі й адзьдзяленьні Асацыяцыі ў гарадах краіны, у тым ліку і ў Беларусі, былі ліквідаваныя яшчэ раней.

У «Советском коллекционере» за 1929 год (№ 7—9, стр. 72) быў надрукаваны артыкул Ц. Мількінай пра Беларускае таварыства калекцыянераў (БТК). У ім паведамлялася, што пытаньне пра стварэньне БТК узнікла ў сувязі з тым, што Савецкая філятэлістычная асацыяцыя (СФА) ня мела поўных дадзеных пра калекцыянераў (філятэлістаў, баністаў і іншых) у рэспубліцы, таму не магла цалкам забясьпечыць іх патрэбы — забесьпячэньне філяматэрыяламі й бонамі. Для стварэньня БТК быў выбраны арганізацыйны камітэт з 12 чалавек, які выпрацаваў статут таварыства. Гэты статут быў зарэгістраваны і, што самае галоўнае, зацьверджаны НКУС БССР, т. ч. Беларускае таварыства калекцыянераў, як і ўсе іншыя падобныя таварыствы ў СССР, было пастаўлена на ўлік у НКУС і працавала па статуце, зацьверджаным гэтай арганізацыяй. Арганізацыйны камітэт далучыў да таварыства вядомых калекцыянераў-грамадскіх дзеячаў рэспублікі прафэсара А. І. Кайгародава (філятэліст), прафэсара М. М. Шчакаціхіна (нумізмат, сфрагіст, фалерыст), прафесара А. М. Вазнясенскага (баніст) й іншых, якія раней былі ў іншых таварыствах. Праўленьне УТК (Менск) арганізавала ў канцы 1929 года свае філіі ў Гомлі й Рагачове. Восеньню 1929 года БТК зьбіралася правесьці сваю першую выставу, якая павінна была папулярызаваць задачы й мэты таварыства. На выставу былі запрошаныя й згадзіліся ў ёй удзельнічаць Дзяржбанк (калекцыя бон), Цэнтрапрацаашчадкаса й Наркампоштэль (калекцыя марак). У многіх школах Менска, Гомлі, Віцебска, Воршы й іншых буйных гарадоў БССР таварыства прыступіла да стварэньня гурткоў юных калекцыянераў.

У «Адраснай кніжцы...» Б. А. Вілінбахава (1930 г.) паведамлялася пра Ўсебеларускае таварыства калекцыянераў, праўленьне якога знаходзілася ў Менску па адрасе: вул. Сьвярдлова, 11, кв. 3, старшынём якога быў А. Г. Шэрман. У невялікім сьпісе, прыведзеным у гэтай кніжцы, былі прозьвішчы беларускіх калекцыянераў канца 20-х — пачатка 30-х гадоў: філятэлісты менчукі Арцышэўскі В. Б., Богдан Л. В., Вазнясенскі А. Н. (таксама манэты і боны), Кайгародаў А. І., 48 год (Горкі Аршанскай акругі), Мількіна В. Т., гамельчукі Лаўфер Г. М., 30 год (таксама боны), Прыабражэнскі В. С. Сярод беларускіх калекцыянераў было шмат баністаў і нумізматаў: Гофман Ф. Ф., Баснек А. Г. (Гомля), Гудошнікоў М. К., Гутэрман Е. С., Зубкоў Г. А. (Гомля), Коўнер Ш. М. (Гомля), Мількін М. Г. (Менск). У сьпісе толькі адзін філякартыст Мартынаў А. С., 20 год. Канец 20 — пачатак 30-х гадоў — белыя плямы ў гісторыі беларускамй філятэліі. НКУС даўно прыглядаўся да дзейнасьці УТК. Яшчэ ў 1925 годзе філятэлісты былі прылічаныя да замежных шпіёнаў, ворагаў народа, буржуазных насьледнікаў. Гэта пацьвяржаецца цікавым дакумэнтам, знойдзеным на Ўкраіне. Ён тычыцца непасрэдна філятэлістаў. Гэта тэлеграма начальніка Лубенскага акрадзьдзела ГПУ, адрасаваная раённым рэзыдэнтам. Яе тэкст адносіцца ня толькі да Ўкраіны. Падобныя тэлеграмы, верагодна, былі разасланыя АГПУ й па Беларусі. Гэты дакумэнт заслугоўвае быць прыведзеным цалкам: «Сакрэтна. Шыфравана код «Інтэрнацыяналь». Лістапад м-ц, 1925 г. Усім раённым рэзідэнтам Лубенскай акругі, м. Чарнухі, тав. Л-ій. АГПУ СССР раскрыта й арыштавана на Украіне група шпіёнаў — філятэлістаў, якая пад шырмай зьбіраньня калекцыяў розных замежных паштовых марак фактычна займалася шпіёнскай дзейнасьцю й перасылала за мяжу савецкія паштовыя маркі, якія мелі адмысловае ўмоўнае значэньне ў іх адмыслова распрацаваных шыфрах і кодах. Прапануем неадкладна высьветліць, ці не існуюць падобныя «аматары» й на тэрыторыі вашых раёнаў. Асабліва нас цікавіць тыя зь іх, якія атрымоўвалі з-за мяжы й дасылалі туды паштовыя маркі. Пры выяўленьні такіх асоб неадкладна шыфраванай тэлеграмай уведаміць акрадзьдзел. Нач. Лубенскага акрадзьдзела Дзвіанінаў. Нач. КРО Юркін. Нач. ЭКО Сегель». Як бачна, ганеньні на філятэлістаў пачаліся ў сярэдзіне 20 гадоў і працягваліся амаль 20 год. За гэты час усе філятэлістычныя арганізацыі СССР былі цалкам разгромленыя, забароненыя ўсе філятэлістычныя часопісы, не праводзіліся саюзныя філвыставы, філятэлісты СССР не ўдзельнічалі ў міжнародных вернісажах, да 60 гадоў не было праведзена ніводнага зьезда УТФ.

Беларускія калекцыянеры 20—30-х гадоў амаль не пакінулі пасьля сябе артыкулаў у часопісах, любых іншых зьвестак, а тым болей калекцыяў. Час зьнішчыў дадзеныя пра калекцыйную дзейнасьць філятэлістаў, баністаў і іншых зьбіральнікаў рэспублікі. Але я працягнуў пошукі гэтых дадзеных, якіх-небудзь лістоў калекцыянераў 30-х гадаў, успамінаў сучаснікаў. І гэтыя пошукі ўвянчаліся невялікім посьпехам. У пачатку 70-х гадоў адзін зь пермскіх філятэлістаў прапанаваў мне набыць паштоўку-ліст гомельскага баніста Зубкова Г. А. Гэтую паштоўку ў чэрвені 1932 года Зубкоў Г. А. (вул. Балотная, 4) выслаў свайму калегу ў Пермь. З гэтага тэксту бачна, што гомельскі калекцыянер цікавіўся маркамі СССР, ўсімі бонамі, выдадзенымі на тэрыторыі СССР, прапануючы на абмен беларускія боны. Гомельскі калекцыянер Зубкоў Г. А. лічыўся адным з буйнейшым беларускіх баністаў. У яго калекцыі налічвалася некалькі тысячаў бонаў, выдадзеных у перыяд з 1917 па 20-я гады, вялікая колькасьць прыватных бонаў, г. зн. розных сурагатаў грошай, выдадзеных у тыя гады сталовымі, рэстаранамі, крамамі, кінатэатрамі, рознымі таварыствамі, фабрыкамі, кааператывамі і г. д. У калекцыі Зубкова Г. А. меліся амаль усе беларускія боны, нават такія рэдкія, як выпускі габрэйскай абшчыны ў м. Калышкі Віцебскай губ., боны Палескай чыгуначнай дарогі, Лідскага й Мазырскага рэўкомаў і многае іншае. Зубкоў вёў абшырнае ліставаньне з баністамі СССР і замежнымі калегамі. Як склаўся лёс гэтага калекцыянера і яго цікавай калекцыі бонаў — пакуль не ўдалося ўстанавіць. Усе гэтыя зьвесткі пра Зубкова паведаміў мне ў 70-х гадах вядомы менскі філятэліст Васкрасенскі Г. В., які быў знаёмы з гомельскім баністам з 20-х гадоў. Працуючы ў фінансавых ворганах БССР, Васкрасенскі Г. В. быў сябрам камісіі па ліквідацыі «прыватных грошай» м. Калышкі, т. зв. «кігілак». Па просьбе Зубкова Васкрасенскі надрукаваў у часопісе «Советский коллекционер» (№ 6(82) VI. 1928) артыкул пра «калышанскія грошы» за подпісам «Кр».

За час з 1922 па 1941 гады ў Савецкай Беларусі не было праведзена ніводнай буйной філятэлістычнай выставы (магчыма, праводзіліся мясцовыя, але пра іх дадзеных таксама няма), не праводзілася ніводнага адмысловага гашэньня. У мяне няма зьвестак — ці ўдзельнічалі беларускія калекцыянеры ва ўсесаюзных выставах, якія адбыліся ў Маскве й Ленінградзе ў 1932—1933 гадах. У беларускіх філятэлістаў і баністаў былі добрыя калекцыі для дэманстрацыі на выставах любога ўзроўню. Са словаў даваенных калекцыянераў (Васкрасенскі Г. В., Шарэйка М. К., Ганчэль) вядома, што беларускія філятэлісты ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў валодалі цікавымі й багатымі (поўнымі) калекцыямі паштовых выпускаў Расеі, расейскай пошты ў Кітаі, Турцыі, ангельскіх калоній, старых нямецкіх дзяржаў, марак пэрыяду грамадзянскай вайны, т. зв. мясцовых правізорыяў — выпускаў 20-х гадоў паштовых кантораў Менска, Рагачова, Суража, Себежа, Дрысы, Холмеча й іншых. Мясцовыя правізорыі нават у тыя гады ўяўлялі вызначаную філятэлістычную рэдкасьць. У аднаго з мясцовых філятэлістаў, прозьвішча якога дакладна ўстанавіць не ўдалося (Рыгор Нечыпаровіч ці Рыгор Нехвядовіч), была лепшая па тых часах у СССР калекцыя беларускіх мясцовых выпускаў — правізорыяў. Прычым вельмі шмат у калекцыі было арыгіналаў лістоў, аплачаных гэтымі цікавымі маркамі. Сёньня толькі невялікая колькасьць такіх марак захоўваецца ў калекцыях беларускіх філятэлістаў, няшмат іх у філятэлістаў былога СССР. А арыгіналаў лістоў таго часу вядома ўсяго толькі некалькі. Пра ўнікальную калекцыю й пра філятэліста Нечыпаровіча (Нехвядовіча) сёньня няма ніякіх зьвестак. (Больш падрабязна пра беларускія правізорыі — гл. «Голас Радзімы» № 13, 1978 г.)

Прапала ў 30-е гады й калекцыя ўнікальных старых беларускіх лістоў XVI—XVIII стст., сабраная адным з менскіх філятэлістаў. Ёсьць адрывачныя зьвесткі, што частка гэтай калекцыі была паказана на адной з маскоўскіх філятэлістычных выстаў у пачатку 30-х гадоў. Невядома й прозьвішча гэтага філятэліста і лёс яго калекцыі.

Да канца 30-х — пачатка 40-х гадоў філятэлістычны й наогул калекцыйны рух на Беларусі (як і ва ўсім СССР) быў практычна зьнішчаны. Многія калекцыянеры былі расстраляныя, сядзелі па розных лагярах ГУЛАГа, іншыя былі сасланыя на пасяленьне ў Сібір і на Поўнач. Лёс канфіскаваных калекцыяў застаўся невядомым.

Вось яшчэ трагічная гісторыя калекцыянера й яго калекцыі. Вышэй я прыводзіў дадзеныя «Адрасных кніжак», узгадваў прозьвішча прафэсара М. М. Шчакаціхіна (1896—1940), вядомага беларускага навукоўца й калекцыянера. Зьвесткі пра Шчакаціхіна як пра калекцыянера практычна не захаваліся. Вядома, што ён захапляўся нумізматыкай, сфрагістыкай (пячаткі) і фалерыстыкай (мэдалі), але ніякіх зьвестак пра яго калекціі няма, ня знойдзеныя й яго артыкулы на гэтую тэму. У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай 12 жніўня 1930 г. на допыце ў час сьледсва па справе т. зв. «Саюза Вызваленьня Беларусі», ён не ўзгадвае пра сваю калекцыйную дзейнасьць, а толькі навуковую, але зьвязаную й зь яго захапленьнем: «... займаўся сфрагістыкай і нумізматыкай. У апошні час па заданьні кафэдры археалёгіі займаўся абагульненьнем матэрыялаў па вывучэньні тапаграфіі манэтных знаходак, ...быў сябрам савета Беларускага дзяржаўнага музэя» («Мастацтва», № 3, 1993, стар. 51). У ссылцы ў в. Белябей, а затым у с. Кальтоўка Башкірскай АССР, ён працягваў займацца нумізматыкай. Нядоўга да сьмерці ў сваім лісьце ад 02.02.1939 г. акадэміку Ў. І. Пічету Шчакаціхін пісаў: «... жывучы ў Белябеі, я напісаў і падрыхтаваў да друку дзьве работы: 1) Вадзяныя знакі Літоўскай мэтрыкі і 2) Скарбы зь літоўскімі манэтамі для гісторыі нумізматыкі й грашовага абарачэньня да канца 17 ст.». Сваю работу па нумізматыцы М. М. Шчакаціхін паслаў на рэцэнзію ў нумізматычны

адзьдзел Дзяржаўнага Эрмітажа ў Ленінградзе й прасіў захаваць рукапіс. Вядомыя ў той час навукоўцы-нумізматы А. А. Ільін і Н. П. Баўэр далі вельмі высокі й станоўчы водгук пра гэтую работу ссыльнага навукоўца й калекцыянера: «... уяўляе вельмі каштоўны ўклад у гісторыю грашовага абарачэньня заходнерускіх зямель». Але, нягледзячы на станоўчыя водгукі, праца М. М. Шчакаціхіна так і не была нідзе надрукаваная. Такі ж лёс і ў іншай працы навукоўца. Яшчэ з 1932 года ён пачаў пісаць грунтоўны «Нарыс гісторыі літоўскай манэты XVI — XVII стагодзьдзяў». «Да гэтага часу я закончыў першую частку гэтай працы — да Люблінскай уніі («гэты час» — час ссылкі 1939 года.— Л. К.), зараз патроху працую над другой часткай. Але гэтую працу як яшчэ не закончаную я нікуды не спрабаваў уладкаваць... Такія сумныя мае навуковыя справы»,— так пісаў М. М. Шчакаціхін у тым жа лісьце акадэміку Ў. І. Пічэту. Дзе зараз гэтая праца навукоўца й калекцыянера-нумізмата — невядома. Мабыць, згубленая назаўсёды. Як згубленыя, раскрадзеныя, а можа, проста зьнішчаныя й самі калекцыі. Але вернемся да дакумэнта, знойдзенага ня ў нашай рэспубліцы. Ня выключаная знаходка аналягічнага дакумэнта й у нас, бо многія калекцыі ў час арыштаў канфіскоўваліся. Неяк ў друку прамільгнула паведамленьне, што «вещдоки» (рэчавыя доказы) такога кшталту таксама зьнішчаліся. Верагодна, што нехта Садоўнікаў Гаўрыла Мікалаевіч зь Іркуцка быў арыштаваны ворганамі АГПУ, а затым адпушчаны. Шкада, што невядома, якая ў яго была калекцыя. Пры вызваленьні яму калекцыю не вярнулі. На ўсе лісты, запытаньні, заявы Саладоўнікаў атрымаў надрукаваны на трафарэтнай картачцы адказ: «Народны камісарыят юстыцыі РСФСР. Адзьдзел пракуратуры па нагляду за АГПУ. Масква. Сьпірыдонаўка, 30. № К — 84. 15.06.1931. Хадайніцтва ваша пра вяртаньне калекцыі накіраванае пракурору Ўсходняй Сібіры (Іркуцк) на рэагаваньне, куды Вам і належыць зьвярнуцца за ўсімі даведкамі. Сакратар пракуратуры пры АГПУ. Подпіс». Там жа зьмяшчаецца рэзалюцыя «16.10.31. Заява накіраваная пракурору Забчыг. Чыта. Подпіс». Хутчэй за ўсё, не атрымаў іркуцкі калекцыянер сваёй калекцыі. Лёс калекцыі М. М. Шчакаціхіна невядомы. І сёньня немагчыма нават прыблізна апісаць гэтыя калекцыі. Іншыя пасьпяхова пражылі 30-я гады, але загінулі ў гады вайны. Вось яшчэ адна гісторыя калекцыі. Вышэй я ўзгадваў гомельскага баніста Стасенко(ва) Б. С. У пачатку 70-х гадоў я пачаў пошукі сярод баністаў СССР тых, хто меў у сваіх калекцыях беларускія боны. Тады мне хтосьці й паведаміў адрас Б. С. Стасенко(ва), які жыў на той час на Ўкраіне ў Луганску, рэкамендуючы яго як знаўцу й зьбіральніка беларускіх бонаў. Вось што адказаў на мае пытаньні Стасенка(ў): «На жаль, дакумэнтальных зьвестак пра боны ў мяне зараз няма. Трэба сказаць, што й да вайны 1941—1945 гадоў гэтых зьвестак амаль не было, штосьці з дакумэнтаў пра боны, выпушчаныя ў Томску (Управа), Мазыры (Рэўком), Бабруйску (Гаруправа) у мяне былі, але ўсе яны разам з маёй калекцыяй бонаў і грашовых знакаў (якая была да вайны на трэцім месцы ў Саюзе па аб'ёму сабраных бонаў) у час акупацыі фашыстамі Гомлі загінулі. Калекцыя й увесь мой архіў захоўваліся ў маці. Пасьля вайны я ўзнаўляў усю калекцыю бонаў, і зрабіць мне гэтага не ўдалося».

У той жа час у Заходняй Беларусі, якая з 1921 года знаходзілася пад польскай акупацыяй, існавалі філятэлістычныя клюбы, таварыствы, невялікія групы, проста неарганізаваныя філятэлісты (у Брэсьце, Горадні, Беластоку, Лідзе, Лунінцы, Кобрыне, Баранавічах, Слоніме, Пінску й інш.). У Брэсьце ў 1926—1935 гадах працаваў клюб філятэлістаў, які пазьней зьліўся з Саюзам Польскіх філятэлістычных аб'яднаньняў. Філятэлісты Брэста нейкі час — з 1926 па 1928 год — выдавалі адзіны на тэрыторыі Беларусі філятэлістычны часопіс «Ikaros». Клюб філятэлістаў у Беластоку быў арганізаваны ў 1935 годзе, у 1936 перайменаваны ў Таварыства філятэлістаў, існаваў да 1939 года. У 30-х гадах актыўна дзейнічала Гарадзенскае філятэлістычнае таварыства, сябры якога штомесяц праводзілі сустрэчы па вуліцы Напалеона, 3.

Нямала беларусаў было членамі Віленскага таварыства філятэлістаў і нумізматаў, што дзейнічала ў Вільні ў 1924—1939 гадах. У большасьці сваёй філятэлісты Заходняй Беларусі былі гарадской элітай — урачы, афіцэры, настаўнікі, сьвятары, вышэйшыя чыноўнікі, а таксама гімназісты. І невялікая колькасьць сярод іх дробных служачых, чыноўнікаў, крамнікаў, рабочых. Пералічаныя філятэлістычныя клюбы былі афіцыйнымі грамадскімі арганізацыямі й былі вядомыя ў Польскім саюзе філятэлістаў. Амаль нічога невядома пра філятэлістаў з малых гарадоў і мястэчак, якія не былі аб'яднаныя ў таварыствы.

У невялікім палескім горадзе Лунінцы, які ў 30-я гады налічваў каля 10000 жыхароў, было 8—12 філятэлістаў. Большасьць зь іх — гарадская інтэлегенцыя: сын дырэктара школы імя в. кн. Ягайлы Скаруна, работнік тэлеграфа Сергель, намесьнік начальніка чыгуначнай станцыі Дэмбоўскі, афіцэр мясцовага гарнізона капітан Ліпінскі, а таксама гімназісты браты Пятро й Павел Раманюкі, вучань тэхнічнай школы Яўген Дзідзюк, пажарнік Каратышэўскі, электрык Жук, рабочы Л. А. Коласаў і іншыя. Вучні пачатковай школы таксама захапляліся зьбіраньнем марак. Разам з імі й я пачаў зьбіраць маркі па прыкладзе бацькі.

Лунінецкія філятэлісты не мелі сваёй арганізацыі. Гэта былі індывідуальныя калекцыянеры. Такое ж становішча было і ў філятэлістаў Кобрына. Па зьвестках А. М. Мартынава, у гэтым горадзе ў канцы 30-х гадоў маркі зьбіралі вядомы ў горадзе доктар Невяроўскі, афіцэр гарнізона капітан Казімір Радл, сам А. М. Мартынаў, некаторыя вучні гімназіі. На жаль, няма дадзеных пра філятэлістаў іншых гарадоў Заходняй Беларусі. Сёньня знайсьці зьвесткі пра гэта з прычынаў трагічных падзеяў 1939 — 1952 гг. вельмі цяжка.

Некалькі слоў пра выпускі польскай пошты, якія мелі адносіны да беларускай тэматыкі. З 1934 года польская пошта правяла ў гарадах Заходняй Беларусі 12 адмысловых гашэньняў — у Брэсьце, Пінску, Баранавічах, Лідзе й Навагрудку. Найбольш цікавыя зь іх — гэта гашэньні, прысьвечаныя турызму па Палесьсі, Палескім кірмашам у Пінску, а таксама навагародскі штэмпель пра дні Міцкевіча ў 1938 годзе. Былі таксама выпушчаныя паштоўкі зь відамі Мірскага замка (1931), Горадні (1935), рыбакоў на Палесьсі (1935), а таксама марка пра замак у Міры (1935). Гэтыя й некалькі іншых даваенных выпускаў польскай пошты ўвайшлі ў тэму «Беларусіка» ў сусьветнай філятэліі.

У 1939 годзе пасьля ўступленьня Чырвонай Арміі на тэрыторыю Заходняй Беларусі філятэлістычная дзейнасьць сярод мясцовых калекцыянераў амаль цалкам спынілася. Ведаючы адносіны савецкай улады да філятэліі як буржуазнага перажытку, арганізацыі шпіёнаў, калекцыянеры марак дый іншыя зьбіральнікі, што засталіся на тэрыторыі Заходняй Беларусі пасьля падзеяў 1—17 верасьня 1939 года, не афішавалі свае захапленьні перад чыноўнікамі, прыехаўшымі з СССР, бо пра разгром філятэлістычнага руху ў СССР у даваеннай Польшчы было добра вядома. Таму калекцыі былі схаваныя падалей ад вачэй. У канцы 1939— пачатку 1940 года, калі пачаліся арышты й высяленьне мясцовага насельніцтва ў аддаленыя месцы СССР, многія філятэлісты пачалі зьнічтажаць (паліць) маркі розных краін з малюнкамі каралёў, цароў, прэзідэнтаў, кіраўнікоў дзяржаваў, гербоў і сьцягаў. Паліліся лісты ад калегаў з-за мяжы. Людзі зьнічтажалі ўсё, што магло не спадабацца ўладам. Многія філятэлісты — і беларусы, і рускія, і палякі — былі ў тыя гады арыштаваныя, а іх сем'і сасланыя ў Сібір, Казахстан, на Поўнач. Яны былі асуджаныя не як філятэлісты, але іх калекцыі забіраліся работнікамі НКУС як «рэчавыя доказы». Чаго?.. Відаць, антыдзяржаўнай дзейнасьці, бо сярод энкавэдзістаў было распаўсюджанае цьвёрдае перакананьне, што кожны філятэліст — гэта шпіён і вораг савецкай улады. Многія калекцыі — не толькі марак, але й манэтаў, паштовак, ардэноў, кніг — гэта культурныя каштоўнасьці. Зраблю спасылку на асабістыя назіраньні. У Лунінцы ў даваенны час была некаторая колькасьць філятэлістаў. Калекцыянеры марак былі сярод розных саслоўяў. Калі ў кватэру зьбеглага ад савецкай улады капітана Ліпінскага пасяліўся нейкі партыйны работнік — ён адразу выкінуў у сьметніцу ўсе польскія кнігі, сямейныя альбомы з фотаздымкамі сваякоў капітана і калекцыю марак. Маркі былі рассыпаныя ў двары хаты, і мы, хлопцы, хадзілі зьбіраць гэтыя маркі, рыліся сярод кніг, якія валяліся за хлевам. І такіх прыкладаў, па аповядах філятэлістаў, можна прывесьці шмат. Праўда, трэба адзначыць і такі парадаксальны факт — пры адмоўных адносінах савецкай улады да філятэліі, разгоне філятэлістычных арганізацыяў, у краіне дзейнічала Цэнтральнае Філятэлістычнае Агенства (ЦФА) і быў арганізаваны гандаль маркамі. Ужо ў сярэдзіне 1940 г. ў кнігарнях і газэтных кіёсках гарадоў Заходняй Беларусі зьявіліся ў продажы паштовыя маркі для калекцыяў. У невялікіх пакетах па 10 капеек і вышэй знаходзілася па 10—15 марак СССР, Савецкай Украіны, Савецкай Арменіі, Савецкай Грузіі, маркі Манголіі, а таксама арыгінальныя па фармаце й тэматыцы маркі Тувы. Сэрыі марак у пакетах былі няпоўнымі, разьрозненымі. Усё на ўзроўні дзіцячай філятэліі. З аднаго боку — праследаваньне філятэлістаў, з другога — дзяржаўны гандаль маркамі для філятэлістаў. Вось такі палітыка-філятэлістычны парадокс. Філятэлісты-заходнікі, якія «засталіся ў жывых», карысталіся магчымасьцю і куплялі гэтыя пакеты з маркамі. Іншым разам тайна. У калекцыях філятэлістаў Заходняй Беларусі па вядомых прычынах амаль не было савецкіх марак. Яшчэ сёньня ўва многіх калекцыях філятэлістаў Заходняй Беларусі захаваліся экзатычныя маркі Тувы, набытыя ў першых савецкіх крамах.

З восені 1939 па чэрвень 1941 года ні ў адным горадзе Заходняй Беларусі не аднавілася работа якога-небудзь гуртка, групы ці нават групкі калекцыянераў. Падзеі верасьня 1939 года разьметалі па многіх краінах жыхароў Заходняй Беларусі, у тым ліку і калекцыянераў. А тыя, што засталіся, не імкнуліся нешта зрабіць для працягваньня свайго захапленьня. У гэтых абставінах і пры вядомых адносінах партыйных і савецкіх ворганаў, а тым больш НКУС, да разнастайных аб'яднаньняў і групаў аднадумцаў, якія засталіся ад «панскага рэжыму», ніхто нават ня марыў ні пра якія сустрэчы ці абмены маркамі. Калі нешта й адбывалася, то заўжды без лішніх сьведкаў. Пасьля шматлікіх арыштаў і дэпартацыяў у чэрвені 1941 года філятэлісты ў Заходняй Беларусі, як і ў БССР і СССР, аказаліся разгромленымі. Праўда, у школах некаторыя мясцовыя хлопцы яшчэ зьбіралі маркі, а іх калегі па школе, якія прыехалі з бацькамі ў Заходнюю Беларусь з Усходу,— маркамі не цікавіліся. Сам быў таму сьведкам.

Многія калекцыі філятэлістаў, баністаў, нумізматаў і інш., якія захаваліся пасьля 1939 г., прапалі ў полымі вайны, другія былі разрабленыя, украдзеныя, вывезеныя ў Нямеччыну.

Вядомыя выпадкі, калі калекцыянеры абменьвалі маркі, манэты, боны на харчы — сярод прадстаўнікоў новых уладаў было нямала калекцыянераў. Прымалі калекцыі і камісійныя крамы, якіх было досыць шмат ў акупаванай немцамі Беларусі. Што датычыцца філятэлістычнага жыцьця на тэрыторыі Беларусі ў перыяд 1941—1944 гг., то мне вядомы ўсяго адзін факт.

У маёй калекцыі ёсьць цікавая, на мой погляд, паштоўка, якая была набыта мною ў пачатку 80-х гадоў на сустрэчы філятэлістаў у Юрмале (Латвія). Паштоўка зьяўляецца сьведкай таму, што нават у той цяжкі час цікавасьць да філятэліі ў яе асобных аматараў не прапала. Філятэлісты абменьваліся маркамі, пісалі адзін аднаму лісты, набывалі маркі ў адмысловых філятэлістычных крамах. Тая паштоўка была даслана ў Латвію ў кастрычніку 1942 г. з Горадні. Тэкст ліста — філятэлістычны: нехта Сяргей Шышкоў, філятэліст з Горадні, просіць свайго латышскага калегу даслаць яму «ў першую чаргу выданьня 1941 г., наддрукоўкі на расейскіх марках», г. зн. гарадзенскага філятэліста цікавілі савецкія маркі з наддрукоўкамі «LATVIJA», якія мелі хаджэньне на гэтай тэрыторыі пасьля адступленьня савецкіх войскаў. Па адрасным штампіку гарадзенскага філятэліста бачна, што ён трымаў ў Горадні філятэлістычную краму ці фірму «Driefmarkenhandlung fur Sammlungen» («Гандаль паштовымі маркамі для калекцыяў»). Паштоўка, якая выпадкова трапіла мне ў рукі, адкрыла цікавую старонку ў гісторыі беларускай філятэліі. Пасьляваенны лёс гэтага філятэліста з Горадні й яго калекцыі мне невядомыя. Па паведамленьні аднаго з старэйшых філятэлістаў гэтага горада Г. А. Абухава, у 50-я гады да ўдавы Шышкова часта прыязджалі філятэлісты зь Вільні й Коўна. Напэўна, Сяргей Шышкоў пакінуў някепскую калекцыю марак. Іншых зьвестак пра падобнага роду філятэлістычную дзейнасьць ў другіх акупаваных беларускіх гарадах ня маю.

*(Працяг будзе).*

* * *

Магчыма, каму-небудзь з чытачоў газэты вядома штосьці зь філятэлістычнага жыцьця тых далёкіх гадоў: якія-небудзь факты, падзеі, нязначныя зьвесткі. Аўтар артыкула просіць паведаміць яму пра гэта па адрасе: 220086, Менск, п/с 41. Леў **КОЛАСАЎ**.

# НУМІЗМАТЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ!

На пачатку жніўня па ініцыятыве гарадзенскіх гісторыкаў і калекцыянераў ў Горадні створана Рэспубліканскае нумізматычнае таварыства. Нумізматыка мае на Беларусі даўнія традыцыі й шмат прыхільнікаў. Але ў адрозьненьне ад суседзяў (Польшчы, Расеі, Летувы) беларускія нумізматы ня мелі сваёй арганізацыі, каардынацыйнага цэнтра, які б зьвязваў паміж сабой калекцыянераў і аматараў нумізматыкі.

Стварэньне Рэспубліканскага нумізматычнага таварыства толькі на першы погляд падаецца справай невялікага кола людзей, якая ня мае значнай грамадскай вартасьці, але гэта ня так. На тэрыторыі Беларусі знаходзіліся й знаходзяцца нумізматычныя калекцыі, асобныя манэты, якія могуць упрыгожыць фонды любога нумізматычнага кабінета. Шмат каштоўных старажытных манэтаў, выдатных калекцыяў, у тым ліку калекцыя пачынальніка нумізматыкі на Беларусі Чапскага, былі вывезены за мяжу, многія пад пагрозай вывазу.

Да сёньняшняга дня няма дакладных зьвестак аб нумізматычных калекцыях, якія знаходзяцца ў краязнаўчых музэях, прыватных калекцыях, якія так часта трапляюцца на нашай зямлі. А сярод іх могуць быць сапраўдныя шэдэўры манэтнага мастацтва й надзвычай рэдкія старажытныя манэты.

Рэспубліканскае нумізматычнае таварыства ставіць сваёй задачай аб'яднаць аматараў–нумізматаў, пачаць стварэньне банку дадзеных аб каштоўных калекцыях і асобных манэтах нашай краіны, рабіць выставы, праводзіць семінары па праблемах нумізматыкі й блізкіх да яе дысцыплінах. У планах таварыства на бліжэйшы час — арганізацыя ў Горадні лекцый, правядзеньне выставы экслібрыса, падрыхтоўка навуковага сэмінару, прысьвечанага стагодзьдзю Чапскага.

Таварыства запрашае да сябе ўсіх, хто цікавіцца нумізматыкай ці хоча стаць зьбіральнікам нумізматычнай калекцыі. Адрас таварыства: 230023, Горадня, вул. Кастрычніцкая, 6, офіс фірмы «Антыквар». Тэл. (0152) 441701.

*С. КУЛЬ*
(«Пагоня»)

# УГОДКІ ГРУНВАЛЬДА

Сёлета споўнілася 585-я гадавіна самай вялікай бітвы сярэднявечча — бітвы пад Грунвальдам. Магілёўскія філятэлісты адзначылі славутую дату ў гісторыі Беларусі адмысловым клюбным гашэньньнем. Гэта ня першае клюбнае гашэньне, арганізаванае філятэлістамі Магілёва. Такім чынам у 1995 годзе былі адзначаны 875-я ўгодкі Еўфрасіньні Полацкай, а ў 1994 годзе 60-годзьдзе экспедыцыі ўраджэнца Магілёва О. Шмідта на ледаколе «Чалюскін», 50-годзьдзе вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 175-годзьдзе нараджэньня Адама Кіркора.

*БК*



# ДА ЎВАГІ ШАНОЎНЫХ СУАЙЧЫНЬНІКАЎ

**Абазнаны дасьледчык беларускае мінуўшчыны, кандыдат гістарычных навук (doctor of history) прапануе Вам сваю дапамогу ў вывучэньні генеалёгіі, бярэцца скласьці Ваш радавод. Парастак без каранёў чэзьне, а ўзноўленыя імёны далёкіх прадзедаў хоць у нейкай ступені спатоляць тугу па Радзіме, ажывяць генетычную памяць, дапамогуць набрацца жыцьцёвых сілаў, далучыцца да слаўных дзеяў сваіх продкаў. Магчыма, тут Вас чакаюць адкрыцьці, якія напоўняць жыцьцё новым зьместам і ўцехай. Да прыкладу: кажуць, у далёкай Ісляндыі амаль кожны ведае ўсіх продкаў за апошнюю тысячу гадоў.**

**Заяўкі накіроўваць на адрас: Беларусь, 220085, г. Менск, пр. Ракасоўскага, д. 111, кв. 36. Зайкоўскаму Эдварду.**

**Тэл. (0172) 48-93-37**

# МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ЗНАКІ ВАЕННАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Прапаную чытачам «БК» працягнуць знаёмства з тэмай, якая была ўзьнята Львом Коласавым («БК», 1995, 1—2, «Гісторыя на далоні»). На мой погляд, аўтар закрануў даволі цікавую тэму, але, зразумела, у адным артыкуле раскрыць яе немагчыма. Матэрыял, безумоўна, вельмі каштоўны, але нельга пагадзіцца з аўтарам, што старадаўнія мэдалі беларускай тэматыкі невядомыя й вырабляліся ў адзіночных экземплярах. На самой справе існуе шматлікая польска- і расейскамоўная літаратура, дзе апавядаецца пра памятныя мэдалі, зьвязаныя зь Беларусьсю, тыражы знакаў звычайна больш значныя.





Колькі слоў пра тое, чым тлумачыцца такая сытуацыя. Прычын шмат. Пераважная большасць памятных знакаў выраблена па-за межамі Беларусі й успрымаецца дасьледчыкамі як частка гістарычнай і культурнай спадчыны іншых народаў (пераважна польскага й расейскага). Мемарыяльных знакаў амаль няма ў беларускіх музэях, што ўскладняе знаёмства зь імі, а тым больш іх навуковае вывучэнне. Выданьняў, прысьвечаных мемарыяльным мэдалям, няма ў большасці бібліятэкаў нашай краіны. Пэўную цяжкасць стварае й тая акалічнасць, што вялікая колькасць мэдалёў мае надпісы (легенды) на лацінскай мове, што не дазваляе зь першага погляду вылучыць з агульнай масы тыя рэчы, якія маюць дачыненне да беларускай гісторыі.





Зараз пазнаёмлю чытачоў зь мемарыяльнымі знакамі, якія маюць дачыненьне да ваеннай гісторыі Беларусі. У сучасным пэрыядычным друку сустракаюцца паведамленні пра існаваньне мэдаля, прысьвечанага Аршанскай бітве 1514 года. Пошукі гэтага мемарыяльнага знака не далі станоўчага выніку. Разам з тым польскі гісторык XIX ст. Ф. Бянткоўскі, узгадваючы гэты мэдаль, кажа пра тое, што ён, магчыма, зьяўляецца антыкварным вырабам. На карысьць такога дапушчэньня сьведчыць хаця б тое, што легенда выканана польскай мовай, якая стала зьяўляцца на мэдалях Рэчы Паспалітай значна пазьней. Цікавым помнікам, зьвязаным з падзеямі Лівонскай вайны (1558—1583), зьяўляецца «залаты» рускага цара Івана Грознага, прысьвечаны ўзяцьцю Полацака (15 лютага 1563). У строгім сэнсе гэтая рэч не зьяўляецца мемарыяльным знакам. «Залатыя» ў Расіі выкарыстоўваліся для ўзнагароджаньня, тым ня менш асобныя зь іх спалучаюць і мемарыяльныя рысы. На абодвух баках залатога кружка (маса 17,25 г.) знаходзяцца выявы амаль аднолькавых двухгаловых арлоў. Кругавая легенда займае аверс і рэверс: «Божею милостию государь и великий князь Иван Васильевич всея России, Владимирский, Московский, Новгородский, Псковский, Тверский, Полотский, царь Казанский, царь Астраханский». Верагодней за ўсё ўнікальны «залаты» зьявіўся неўзабаве пасьля захопу царскімі войскамі Полацака. Уключэньне ў тытулатуру акрэсьленьня «Полотскій» адлюстроўвала тое выключнае значэньне, якое надаваў Грозны захопу старажытнага Полацака.

Барацьба за Полацак працягвалася. 29 жніўня 1579 года войскі караля Рэчы Паспалітай С. Баторыя авалодалі горадам. Узяцьце Полацака выклікала як ў Вялікім княстве Літоўскім, так і ва ўсёй Рэчы Паспалітай усплеск захапленьня й радасьці, посьпех С. Баторыя набыў гучны рэзананс у Заходняй Эўропе. Таму зусім ня дзіўна, што падзея знайшла адлюстраваньне ў мэдальерным мастацтве Рэчы Паспалітай. Аўтару вядомыя 4 мемарыяльныя знакі, зьвязаныя з авалоданьнем Полацака. На аверсе ўсіх мэдалёў зьмешчаныя выявы караля Польшчы й вялікага князя Літоўскага С. Баторыя і адпаведная тытулатура. На рэверсе трох мэдалёў лацінскія надпісы, якія ўзносяць хвалу богу й Баторыю за вяртаньне Полацка й Лівоніі ў склад Рэчы Паспалітай, і дата вырабу — 1582 год. Найбольшую цікавасьць уяўляе мэдаль з лапідарным лацінскім надпісам «Полацак і Лівонія вернуты. 1582» і алегарычнай сцэнай. Цэнтрам кампазыцыі зьяўляецца пальмавае дрэва — сімвал міру. Пад ім з аднаго боку мужчынская постаць (дэталі вопраткі беспамылкова дазваляюць пазнаць у ёй маскоўскага стральца), што панура сядзіць на барабане. Вайсковец у роспачы падпёр правай рукой галаву. У ягоных ног — разнастайная зброя й вайсковыя прылады. З процілеглага боку пальмы, панурыўшы галаву, стаіць жанчына, рукі яе зьвязаныя за сьпіной. Каля яе кленчыць дзіця. Гэтая жанравая сцэна ўяўляе жывапісны перафраз добра вядомай у эўрапейскай гісторыі й мастацтве, што ўзыходзіць да падзей Іудзейскай вайны (66—73). Упершыню яна зьявілася на манэтах рымскага імпэратара Веспасіяна (69—79), якія мелі надпіс і сцэну, што нагадвалі пра захоп Іерусаліма й падаўленьне Іудзейскага паўстаньне рымлянамі. Храністы А. Гваньні й І. Бельскі сьцьвярджалі, што залатыя экзэмпляры вышэйзгаданых мэдалёў уручаліся гасьцям на вясельлі канцлера й гетмана Я. Замойскага й сваячкі С. Баторыя Грызельды, а срэбраныя раскідваліся сярод людскіх натоўпаў на вуліцах.





У XVII ст. у Рэчы Паспалітай на сьвет зьяўляюцца мэдалі, прысьвечаныя змаганьню за Смаленск. Паўночная вайна выклікала да жыцьця сэрыю памятных знакаў, у тым ліку прысьвечаных перамозе каля вёскі Лясная (1708). Аўтару вядомыя два мэдалі. Карла XII, прысьвечаныя падзеям на беларускай зямлі. Адна зьвязаная з захопам Гародні, а другая — з перамогай шведаў над рускімі каля вёскі Галаўчын. Знайшла адлюстраваньне ў мэдальерным мастацтве й руска-француская вайна 1812 года. З Беларусьсю зьвязаныя два раней узгаданыя Львом Коласавым расейскія мэдалі «Сражение на Березине» й «Бегство Наполеона за Неман», а таксама й францускія знакі, прысьвечаныя захопу Вільні й адступленьню французскай арміі з Расеі.

*Валеры КАСМЫЛЁЎ,*
г. Менск

# ПОШТА ААН

«Мы, народы Аб'яднаных Нацыяў, поўныя рашучасці выратаваць будучыя пакаленьні ад бедстваў вайны...»

Гэтыя словы былі прамоўленыя 24 кастрычніка 1945 года пасьля ратыфікацыі й здачы на захаваньне ратыфікацыйных грамат пяцьцю вялікімі краінамі. Аб'яднаныя Нацыі — назва, прапанаваная прэзідэнтам ЗША Ф. Д. Рузьвельтам, упершыню зьявілася ў Дэкларацыі Аб'яднаных Нацыяў ад 1 студзеня 1942 года, калі прадстаўнікі 26 дзяржаваў абавязаліся ад імя сваіх урадаў працягваць сумесную вайну супраць краінаў восі Берлін-Токіа-Рым. Афіцыйна ААН пачала існаваць 24 кастрычніка 1945 года. ААН зьяўляецца адзінай у сьвеце міжнароднай арганізацыяй, якая карыстаецца паштовай незалежнасьцю, мае асабістую паштовую адміністрацыю з правам выпуску знакаў паштовай аплаты. У паштовых марак ААН ужо вялікая гісторыя. Рашэньне пра заснаваньне паштовай арганізацыі ААН і пра выпуск уласных марак было прынята 16 лістапада 1950 года на Пятай сэсіі Генеральнай Асамблеі. На кангрэсе Сусьветнага паштовага саюза ў Брусэлі ў 1952 годзе маркі ААН былі прызнаныя ўсімі членамі гэтага саюза. Першыя маркі ААН паступілі ў абарачэньне 24 кастрычніка 1951 года. Гэта было вынікам пагадненьня, заключанага паміж ААН і ўрадам ЗША, якое давала ААН права выпуску, продажу й выкарыстаньня для франкіроўкі карэспандэнцыі ўласных знакаў паштовай аплаты ў амэрыканскай валюце. ААН атрымала таксама права выпускаць уласныя цэльныя рэчы й прымяняць адмысловыя паштовыя штэмпелі. Неабходнасьць такога пагадненьня была выкліканая ростам міжнароднага аўтарытэту ААН і, як вынік гэтага, ростам афіцыйнай перапіскі. Выпушчаныя маркі, канвэрты й штэмпелі маглі выкарыстоўвацца толькі ў паштовым адзьдзяленьні штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку. Першапачаткова на марках ААН меўся надпіс «Аб'яднаныя нацыі» па-расейску, па-ангельску, па-француску й па-кітайску. Рост ААН і разьвіцьцё яе ўнутранай структуры выклікалі неабходнасьць заключэньня аналагічнага паштовага пагадненьня з урадамі Швэйцарыі ў 1968 годзе й Аўстрыі ў 1979 годзе, паколькі ў гэтых краінах меліся буйныя цэнтры ААН. Намінал на новых паштовых выпусках указваўся ў валюце краіны знаходжаньня, надпісы рабіліся ў асноўным па-ангельску, па-француску й па-нямецку, а выкарыстоўвацца новыя маркі й канвэрты маглі толькі ў паштовых адзьдзяленьнях ААН у Жэневе й Вене. Акрамя таго, паштовыя ведамствы Францыі й Нідэрландаў выпускаюць маркі для сьпецыялізаваных арганізацыяў ААН, разьмешчаных у гэтых краінах. Сюжэты паштовых выпускаў ААН адлюстроўваюць дзейнасьць і сьпецыфіку гэтай арганізацыі. Часьцей за ўсё яны прысьвячаюцца розным міжнародным праблемам навуковага, эканамічнага й культурнага супрацоўніцтва. Вялікая група марак прысьвечаная дзейнасьці міжнародных сілаў ААН па падтрыманьні міру. У Палацы Нацыяў у Жэневе ў Дзень ААН 24 кастрычніка 1962 года быў адкрыты філятэлістычны музэй ААН. З дня заснаваньня музэя яго экспазыцыя сістэматычна папаўняецца новымі маркамі, дакумэнтамі й выпускамі паштовай арганізацыі ААН і краін-членаў ААН. У экспазыцыі музэя ужо ёсьць паштовыя выпускі Рэспублікі Беларусь.

Варта ўзгадаць сэрыю марак з блокам, на якім паказаныя вітражы штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку. Гэтыя вітражы былі створаныя сусьветна вядомым мастаком, выхадцам зь Беларусі Маркам Шагалам. З 1981 года пошта ААН выпусьціла вялікую сэрыю марак з адлюстраваньнем сьцягаў краін-членаў ААН. У 1983 годзе на марцы ААН быў паказаны сцяг БССР. У камюніке дырэкцыі паштовай службы ААН у сувязі з выхадам гэтай маркі адзначана, што Беларусь была ў ліку краінаў-заснавальнікаў ААН і адыгрывае важную ролю ў гэтай арганізацыі. У 1994 годзе паштовай службай ААН была выдадзена паштоўка з выявай дзяржаўнага бел-чырвона-белага сьцяга Рэспублікі Беларусь.




United Nations

Belarus • Bélarus

Маркі ААН, прапагандуючы гуманныя прынцыпы, пакладзеныя ў аснову гэтай арганізацыі, служаць умацаваньню міру й супрацоўніцтва паміж народамі.

Адзначаючы 50-годзьдзе гэтай арганізацыі, пошта рэспублікі выпусьціла марку з эмблемай ААН і буслам — сімвалам Беларусі. Малюнак рамкі заключаны ў рамку беларускага арнаменту. З такой жа эмблемай да юбілею ААН быў выдадзены мастацкі канвэрт, а ў Дзень ААН 24 кастрычніка на Менскім паштамце было арганізаванае адмысловае гашэньне карэспандэнцыі юбілейным штэмпелем.

*Леў КОЛАСАЎ*
г. Менск

КАЛЕКЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ
хоча ўстанавіць сталыя сувязі й абмен з аматарамі даўніны, якія цікавяцца земскімі маркамі, паштоўкамі, цэльнымі рэчамі, баністыкай, нумізматыкай і фалерыстыкай. Пісаць можна па-беларуску і па-расейску
Тэлефануйце:
(718) 331-3241
Пішыце: A&R SHUSTERMAN
BOX 232, Brooklyn, N.Y. 11214 USA






# НОВЫЯ ПАШТОВЫЯ МАРКІ

**Беларуская пошта 30 сьнежня 1995 г. правяла адмысловае гашэньне першага дня сэрыі паштовых марак «Выдатныя асобы Беларусі». На трох марках — выявы канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі (1557—1633 гг), інжынера й тэарэтыка артылерыі, першага ў сьвеце вынаходніка шматступеннай ракеты, ракетных батарэй і стабілізатараў да ракетаў Казіміра Семяновіча (1600?—1651? гг) і царкоўнага дзеяча, педагога, пісьменніка, публіцыста Сімяона Полацкага (Самуіла Пятроўскага-Сітняковіча, 1629—1680 гг).**



# Новыя паштовыя штэмпелі

Беларуская пошта паступова ўводзіць ва ўжытак новыя каляндарныя штэмпелі. У большасьці раённых паштовых адзьдзяленьнях дагэтуль яшчэ ўжываюцца каляндарныя штэмпелі з савецкай сымболікай (№ 1—2). На Менскім колачыгуначным і галоўным паштамце сталіцы й шмат якіх менскіх гарадскіх адзьдзяленьнях сувязі штэмпелі пазбаўленыя ранейшай сымболікі (№ 3). Побач са старымі тут карыстаюцца й новымі штэмпелямі з надпісам «Беларусь. Пошта» (№ 4—6). У раённых і гарадскіх адзьдзяленьнях таксама паступова былыя штэмпелі замяняюцца новымі (№ 7—8).

*К. Леанідаў,*
г. Менск




# ПЕРШАЯ МАНЭТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Юбілейная манэта вартасьцю ў 1000 рублёў выпушчаная Ашчадным банкам сумесна з Белаграпрамбанкам. Яна прысьвечана 50-годздзю Перамогі ў другой сусьветнай вайне. Манэта адчаканеная ў ЗША з золата 999 пробы вагай 1 тройская унцыя (31, 1 г) у колькасьці 1000 асобнікаў. На аверсе гэтай манэты адлюстравана выява помніка на плошчы Перамогі ў Менску, на абаротным баку — выява зубра, надпісы «1000 рублёў» і «Рэспубліка Беларусь». На абодвух баках надпіс «50 год Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне».

Абодва банкі прадавалі гэтыя манэты за гатоўку па 1200 USD, за безнаяўныя па 1226 USD. Падобныя манэты такой чысьціні й такой вагі золата выракляюцца ў сьвеце вельмі рэдка і не выраблялiся ў СССР і Расейскай Федэрацыі, а таксама ў Расейскай імпэрыі да 1917 г. Гэтыя манэты болей выпускацца ня будуць, штампы, якія выкарыстоўваліся пры іх вырабе, зьнішчаныя. Па паведамленьні прэсы, рыхтуюцца новыя выпускі юбілейных срэбных і залатых манэтаў рознага наміналу.

## НОВАЯ БАНКНОТА З СТАРЫМІ СЫМБАЛАМІ

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь з 15 верасьня 1995 г увёў у абарот банкноту ў 50000 рублёў. «Пагоні» на ёй ужо няма. Затое ёсьць пяціканцовая зорка карычневага колеру.

**НОВЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ**

**Урадавую замову атрымала Гомельскае вытворчае аб'яднаньне «Крышталь» — выраб узораў беларускіх урадавых узнагародаў. Узоры павінны быць выраблены ўжо ў сакавіку.**

Ёсьць думка, што па стылі й духу яны будуць цалкам савецкімі, а беларускага ў іх ня будзе нічога.




Інфармацыйная, выдавецкая дзейнасьць
паліграфія і рэкламныя паслугі
навуковыя штуды ў галіне індаеўрапеістыкі

У СВОЙ ЧАС НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ

тэл./факс: (0-172) 278283
"ВАЎКАЛАКА", п/с 29, 220030, Менск 30, Беларусь


# ЗАПРАШАЕМ

Клюб калекцыянераў «Пошук» і Беларускі саюз філятэлістаў арганізуюць сустрэчы калекцыянераў у Доме культуры чугуначнікаў (г. Менск, вул. Чкалава) у сераду з 15.00 па 18.30, у нядзелю з 8.00 па 12.00. Тэл. 259-893.

Сустрэчы філятэлістаў у Доме культуры трактарнага завода адмяняюцца ў сувязі з рамонтам будынка.

* * *

Клюб «Нумізмат» (г. Менск) праводзіць сустрэчы калекцыянераў у клюбе ЖЭКа па адрасе: вул. Працоўная, 6, у нядзелю з 9.00 па 13.00.

# Прысьвечаныя Максіму Багдановічу




1. Выдадзена да 100-годзьдзя ад нараджэньня Максіма Багдановіча. Выданьне Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва (ЗША) у 1991 г. Дызайн Ірыны Дутко-Рафалевіч. Пераклад верша Веры Рыч.

2. Выдадзена да 100-годзьдзя аддня нараджэньня Максіма Багдановіча МТ Дзяржзнака накладам 100 тыс. асобнікаў у 1991 г. Афармленьне А. Галубятнікавай.




# БЕЛАРУСКІ МЭДАЛЬЕР



Празьмернасьць шкодзіць прыгажосьці мэдалёў.

На колішнім часе (і тычыцца гэта ў першую чаргу расейскага мастацтва) мэдальерная справа лічылася сродкам увасабленьня гераічнага. Выразны прыклад на тое — творчасьць мастака Фёдара Талстога. Вяршыня яго мэдальерных росшукаў — мэдальёны, прысьвечаныя падзеям 1812 года. У гэтай сэрыі з асаблівай сілай прагучаў вобраз народнага героя. Але ж у аднолькавай ступені мастацкая канцэпцыя Фёдара Талстога судакранальная й з выразна беларускім накірункам сучаснага мэдальернага мастацтва. Як быццам на ўсе часы, на ўсе разгалінаваньні адметнай малой формы скульптуры праецыруюцца словы таленавітага майстра: «Празмернасць шкодзіць прыгажосьці мэдалёў».

Угледзьцеся ў мэдалі, створаныя беларускім скульптарам Уладзімірам Лятуном, і вы пераканаецеся, што малая пластычная форма якраз і выйграе за кошт прастаты, лаканічнасьці. Прыгажосьць, упэўнены творца, у дадзеным выпадку заключаецца ва ўмелым, трапным выбары дэталяў.

З чаго ўсё пачалося? Які першаштуршок зварухнуў, прымусіў праявіць цікаўнасць да мэдаля?.. Як першую спробу, Уладзімір Міхайлавіч згадвае мэдаль П. Лепяшынскаму. Выкананы ў золаце, ён з'яўляўся ўзнагародай для лаўрэатаў прэміі Саюза журналістаў СССР. Але асэнсаваны, мэтанакіраваны пачатак ў іншым — у мэдалях да 100-годзьдзя класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы й Якуба Коласа. Усяго вядома больш за 20 юбілейных, памятных і сувэнірных мэдалёў, прысьвечаных, у прыватнасці, Янку Купалу. Аўтары самыя розныя — Я. Раманоўскі, Г. Максімаў, З. Азгур, Я. Струпуліс, І. Асташонак, М. Рыжанкоў, Ю. Любімаў. Матэрыял самы розны — сілумін таніраваны, медзь, палехская размалёўка на мэтале, гіпс таніраваны, мельхіёр, дрэва, парцэляна, гліна. Відавочна, што ня ўсе мэдалі тыражаваныя. У свой час на Гарадзенскай абласной мастацкай выставе экспанавалася сэрыя з рэльефаў-мэдалёў мастака А. Ліпеня (бронза), на якіх адлюстраваны Купала ў розныя гады жыцьця.

Уладзімір Міхайлавіч адразу пачаў працаваць з разлікам на тыраж. Быў вядомы і выканаўца — Ленінградскі манэтны двор.

Зроблены эскіз. Падрыхтавана форма з пластыліна. Пасьля пераведзеная ў гіпс. Зацьвердзілі ў Міністэрстве культуры, пасьля ў ЦК і Савеце Міністраў. Культурай, мастацтвам загадвала тады спадарыня Сьняжкова. Мастак задаволены. Ніякіх папраўак. Строгі й задуменны воблік Купалы прыйшоўся ўсім даспадобы. Засталося як найхутчэй (часу да ўрачыстасьцяў засталося няшмат) ляцець да вытворцаў у Ленінград.

Але заказ адвезьці на Ленінградскі манэтны двор выказала жаданьне дырэктар Літаратурнага музэя Янкі Купалы Жанна Казіміраўна Дапкюнас. І вось раптам — начны званок з паўночнай расейскай сталіцы. Жанна Казіміраўна ў роспачы:

— Уладзімір Міхайлавіч, усё зрываецца. Рэльеф мэдаля перавышае дазволеную тэхналогіяй норму. З вашага арыгінала мэдаль вырабіць нельга.

— ???

— Што ж рабіць?.. Ленінградцы прапануюць такое выйсце. Мастак на месцы гатовы ўсё перарабіць. Але пры ўмове, што будзе суаўтарам мэдаля... Лятун задумаўся. Першае, што прыйшло ў галаву: «Як гэта так? Нехта іншы будзе ўмешвацца ў маю працу? А ці здолее адчуць чужы чалавек Купалу, мой высечаны вобраз?» Гэта падштурхнула да рашучага запыту:

— Жанна Казіміраўна, колькі ў нас часу? Які тэрмін адведзены на пераробку?

— Усяго дзесяць дзён. Уладзімір Міхайлавіч раненька падаўся ў майстэрню. Не выходзіў адтуль скульптар пяць сутак — пяць дзён і пяць начэй. І, маючы зыходную пластылінавую мадэль, усё зрабіў як след. І новы экзэмпляр сам адвёз у Ленінград. На манэтным двары толькі й падзівіліся:

— Могуць жа беларусы справіцца й самі... А для скульптара гэтыя словы — найвышэйшая пахвала. Ды яшчэ ў Ленінградзе адбылася сустрэча зь земляком. Ім аказаўся якраз майстар, які павінен быў адліць мэдаль. Так, наш зямляк, беларус, па прозьвішчы Сыс, з Палесся, тыражаваў мэдаль, прысьвечаны Янку Купалу.

З коласаўскім мэдалём усё склалася шмат прасьцей. Дапамог вопыт папярэдняй працы. Дапамагло больш дасканалае валоданьне тэхналогіяй.

Ужо да 110-годдзя Янкі Купалы скульптар ізноў вярнуўся да малой пластычнай формы. Але на гэты раз Уладзімір Міхайлавіч занатаваў вобраз маладога паэта. Дарэчы, узьнікла ідэя адлюстраваць Купалу на пачатку творчай дарогі. Юны паэт, аўтар першых вершаў-адкрыцьцяў — чаму да такога Купалы рэдка зьвярталіся скульптары? Над гэтым пытаньнем неаднойчы задумваўся Уладзімір Міхайлавіч.

Раз-пораз аглядаў наробкі папярэднікаў. Хто толькі не зьвяртаўся да скульптурнага ўвасабленьня купалаўскай постаці — Бразэр, Азгур, Селіханаў, Палякоў, Анікейчык, Бембель... Уладзімір Міхайлавіч пайшоў сваім шляхам.

Праца над коласаўскімі й купалаўскімі мэдалямі стала пэўнай школай для Лятуна. І ня дзіўна, што беларускі ўрад замовіў першую сваю (пасьля абвяшчэньня суверэнітэту Беларусі) дзяржаўную ўзнагароду Уладзіміру Міхайлавічу. Вопытны скульптар справіўся з адказным даручэньнем. Лятун, аналізуючы ці ня ўвесь вядомы ілюстрацыйны скарынаўскі матэрыял, знайшоў ці не самае простае й ці не самае дакладнае рашэньне ў перадачы вобраза Скарыны. Спрацавала мастацкае пачуцьцё. Майстар, выбіраючы розныя варыянты, думаючы над рознымі рашэньнямі, зразумеў, што ізноў жа галоўнае — лаканічнасьць, урачысты характар адлюстраваньня, але ж без ўсялякай пампезнасьці, без ўсялякай псеўдапрыгажосьці

Сёньня мэдалём Францыска Скарыны ўшанаваны самыя ганаровыя людзі нашай дзяржавы — вядомыя мастакі, пісьменьнікі, акторы, грамадскія дзеячы. Хацелася б, каб і надалей высокая дзяржаўная ўзнагарода заставалася адмецінай шчырай руплівасьці на ніве ўмацаваньня беларускай дзяржаўнасьці.

Ёсьць у творчым арсэнале скульптара Лятуна й адзін неадтыражаваны мэдаль. Выканаў яго Уладзімір Міхайлавіч па замове навагародцаў у гонар Адама Міцкевіча. Душу й сэрца ўклаў мастак у гэтую працу. Дый засталася яна без завяршэньня. Знаёмы медаль толькі аўтару й заказчыкам. А тыраж (прычына на тое — наша эканамічнае бязладзьдзе), на вялікі жаль, не атрымаўся.

Родам Уладзімір Міхайлавіч з Узьдзеншчыны. Найцікавейшая старонка зямлі беларускай. Адтуль жа родам Паўлюк Трус, Кандрат Крапіва, Алесь Пальчэўскі... Вось бы іх асобы занатаваць на мэдалях.

Няўжо й гэта па сёняшнім часе нязбыўная мара?!

Алесь *КАРЛЮКЕВІЧ*,
г. Менск


Газэта БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР
Год заснавання 1990
Пасьведчаньне №820
Рэдактар Уладзімір Цярохін
Адказная за нумар Ларыса Гедзімін



Пры перадруку просьба спасылацца на «Беларускі калекцыянер». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Пазыцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі й меркаваньнямі аўтараў публікацыяў. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасьць за дакладнасьць фактаў.



АДРАС РЭДАКЦЫІ: п/с 417, Менск. 220131, Беларусь—BELARUS.
Друкарня «Чырвоная зорка», г. Менск
Наклад 1000 асобнікаў. Фармат А3
Замова № 2413.